

АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

5-11 ЛІСТАПАДА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 35000 РУБЛЁЎ
№45 (237)

## НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 6 лістапада | | Нядзеля, 7 лістапада | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | 0°C – -1°C | 0°C | -4°C – +2°C | +1°C |
| Удзень | +4°C – +8°C | +6°C | +5°C – +7°C | +6°C |

АСТРАВЕЦ

## У Астраўцы змянілася ўлада

На чацвер была прызначаная пазачарговая сесія мясцовага райвыканкома. Адным з асноўных пытанняў стала прадстаўленне новага старшыні "вертыкалі" – **Адама Кавалько**. Раней А. Кавалько працаваў у Мастах начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і быў першым намеснікам старшыні выканкома.

Што тычыцца цяпер ужо былога старшыні Астравецкага райвыканкома **Мечыслава Кудыркі**, то далейшае месца работы яго пакуль невядомае. Мяркуецца, што ён пойдзе на павышэнне і ўзначаліць абласны камітэт па экалогіі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Красненскі соус падробліваюць

Таматны соус вытворчасці Красненскага кансервавага завода карыстаецца трывалым попытам у спажыўцоў. Неўзабаве ў гандлёвую сетку краіны паступяць новыя віды – "Наташа", "Дядя Вася", "Олимпийский огонь".

На прадпрыемстве гавораць, што вылучаюцца яны за кошт спецый, якія надаюць соусам своеасаблівы смак. Дарэчы, аднаўляюцца пастаўкі на завод таматнай пасты (аснова таматнага соусу – менавіта паста) з Ірана.

– Лічу, што наш "Дядя Вася" не горшы за вядомы амерыканскі "Uncle Bens", – гаворыць дырэктар Красненскага кансервавага завода **Ірына Сінельнікава**.

Справа дайшла да таго, што прадукцыю завода падробліваюць. На прадпрыемстве маюць намер выявіць падробшчыкаў і прыцягнуць іх да адказнасці.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Поршневыя кольцы са Смаргоні для Расіі

Завяршаецца рэканструкцыя ліцейнай вытворчасці, якая доўжылася некалькі гадоў, на ліцейна–механічным заводзе.

Прадпрыемства ўпершыню ў Беларусі прыступіла да выпуску поршневых кольцаў да самых розных мадыфікацый аўтамабіляў, якія, у асноўным, будзе пастаўляць у Расію.

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## У Рымдзюны "завітала" інфекцыя

У Рымдзюнскай сярэдняй школе (дарэчы, з беларускай і літоўскай мовамі навучання) здарэнне. У тэлефоннай размове загадчык санітарнага аддзела санэпідслужбы раёна **Аляксандр Пшэгрода** сказаў, што ў інфекцыйнае аддзяленне Астравецкай райбальніцы шпіталізавана 10 чалавек.

У чатырох вучняў выявілі дызентэрыю, яшчэ ў чатырох – вострую рэспіраторную вірусную інфекцыю з кішэчным сіндромам, а два вучні, як мяркуецца, маглі стаць разносчыкамі хваробы. Што стала прычынай гэтай інфекцыі ў школе, адназначна даць адказ у санэпідэмслужбе адмовіліся, бо пакуль ідзе яе вызначэнне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МЯДЗЕЛ

## Музей і плаванне ў Нацпарку

Прайшоў семінар, прысвечаны перспектывам развіцця турызму ў Нацпарку "Нарачанскі".

Перспектывы такія: стварыць музей прыроды і экалогіі, пабудаваць дэманстрацыйныя вальеры для дзікіх жывёл. Разнастайныя будуць і летнія забавы: плаванне пад вадой, пад парусам, на водных лыжах.

У перспектыве – набыццё 2 прагулачных цеплаходаў і не менш за 2 водныя матацыклы.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

СМАРГОНЬ

## Уначы Карані будуць з прадуктамі

У мікрараёне "Карані" адкрыўся магазін ТАА "Жамчужына". Мікрараён з насельніцтвам 10 тысяч апошнія гады пакутаваў ад таго, што прадукты харчавання трэба было завозіць з цэнтра. У адрозненне ад іншага гарадскога гандлю, тут створаная зала самаабслугоўвання, прадукты харчавання можна набыць нават уначы.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## «Зрабі свой выбар»

Фільм пад такой назвай выкарыстоўваецца як прафілактыка правапарушэнняў – яго паказваюць падлеткам у навучальных установах горада. Рэпартаж з залы суда, турэмны быт – вось некаторыя складаемыя зместу.

*Аддзел інфармацыі.*



# «Маньяк» затрыманы?!

*На мінулым тыдні пад Ракавам затрыманы мужчына, якога падазраюць у тым, што ён рабіў дзецям у аздараўленчых летніках ін'екцыі невядомай вадкасці. Пра затрыманне расказвае* ***Наталля ШТЭЙНЕР.***

ВАЛОЖЫН. Ракавым месцам для мяркуемага злачынцы стаў Ракаў, дзе знаходзяцца 7 аздараўленчых летнікаў. Тры выпадкі здарыліся менавіта на Валожыншчыне, таму нарады міліцыі патрулявалі тут рэгулярна, нават ладзілі засады.

У ноч на 28 кастрычніка інспектар па справах непаўналетніх старшы лейтэнант Валожынскага РАУС **Артур Шабалін** знаходзіўся на ахове дзіцячых аздараўленчых летнікаў. Абышоў некалькі разоў тэрыторыю летніка "Дружба", правяраў, каб зачыняліся вокны і фортачкі (адпаведны інструктаж з работнікамі ўстаноў, дзецьмі быў праведзены, але, як заўсёды, такое найчасцей не робіцца). У адным з карпусоў адчыніў акно на першым паверсе, залез у памяшканне. Давялося нават падымаць выхавальніцу.

– Я нутром адчуваў, што ЁН ТУТ, – кажа міліцыянер. – Таму адышоў і схаваўся ў канаве.

Неўзабаве з–за суседняга корпуса выйшаў нейкі мужчына. На гадзінніку – 2.30 ночы. Інспектар спыніў яго, прадставіўся, запытаўся пра мэту начнога шпацыру, папрасіў прад'явіць дакументы. Мажны мужчына (на выгляд – кілаграмаў 100) не падпарадкаваўся, спрабаваў уцячы. Інспектару, які знаходзіцца ў зусім іншай вагавай катэгорыі – да 70 кілаграмаў, затрымаць яго на нейкі час дапамагло веданне самба (летась нават заняў другое месца на абласных міліцэйскіх спаборніцтвах).

. У цемры, пад дажджом, праўда, не надта і зловіш саперніка на прыём; не спрыяла таму і слізкая балоневая куртка. Зрэшты, не дапамог утаймаваць парушальніка нават удар дзяржаннем пісталета па галаве. Таму, калі дзяцюк усё ж вырваўся і кінуўся наўцёкі, давялося прымяняць табельную зброю.

На першыя тры стрэлы ў паветра мужчына не адрэагаваў, з трох наступных – па нагах – дзве кулі трапілі яму ў галёнку левай нагі. Затрыманага тэрмінова даставілі ў Валожынскую бальніцу для аперацыі – аперыравалі пашкоджаны крывяносны сасуд, інакш мужчына мог і памерці. У рэанімацыі, на ўсякі выпадак, выставілі міліцэйскія пасты.

У летніку затрыманы быў у вязанай шапачцы–"менінгітцы", пры спробе збегчы сарваў з рук пальчаткі з тканіны, скінуў і куртку. Пазней на месцы здарэння знайшлі паясную сумачку з аднаразовым шпрыцам і флаконічыкам (і там, і там знаходзілася невядомая бясколерная вадкасць), газавы пісталет з пяццю патронамі і ручку, каб адчыняць аконныя рамы. Непадалёку стаяў "Фольксваген–Пасат".

Затрыманы аказаўся 50–гадовым ўраджэнцам Нясвіжскага раёна, цяпер ён – жыхар сталіцы. Па папярэдніх дадзеных, беспрацоўны, аднак сведкі сцвярджаюць, што грошы ў яго ёсць немаленькія, бо мае адносіны да бізнесу.

Па ўсёй верагоднасці, тры валожынскія крымінальныя справы будуць закрытыя – па ўсіх эпізодах затрыманы даў паказанні. Пакуль невядома пра матывы незвычайных паводзінаў сталага мужчыны. У мясцовай міліцыі выказвалася меркаванне, што ўводзіў ён дзецям усё ж нейкі наркотык.

Невядома таксама, ці мае ён дачыненне да іншых аналагічных выпадкаў на тэрыторыі Міншчыны. Тым болей, што некаторыя работнікі праваахоўных органаў Маладзечаншчыны і Вілейшчыны настроеныя даволі скептычна, ад нейкіх каментарыяў ухіляюцца. Маўляў, па вялікім рахунку, "засады" на злачынцу засталіся.

Зрэшты, ідзе следства, таму не ў інтарэсах праваахоўных органаў дапускаць "уцечку інфармацыі". Пачакаем.

*Аддзел інфармацыі.*

ЗНАХОДКІ

## На тэрыторыі "Плябаніі" знойдзены ўнікальны экспанат

МАЛАДЗЕЧНА. І дагэтуль знаходак у комплексе было багата. Загадчыца музея гісторыі і беларускай літаратуры **Святлана Паркалава** сцвярджае, што "зямля літаральна звініць". То цвікі–шасцігранніки вылезуць, то, бывае, такія стрыжні вялізныя, што ў руцэ не ўтрымаць.

Дырэктар аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў краіны **Леанід Хадкевіч** прыслаў спецыяліста з пошукавым прыборам "Фішэр". Праверылі самы загадкавы ўчастак. На ім пасля пасадкі не прыжыліся глог, вярба; некалі знайшлі керамічны крыжык старажытнай ручной работы.

"Фішэр" нічога не паказаў. Тым не менш, вырашылі гэты ўчастак праверыць. На метровай глыбіні знайшлі камень чырвонага колеру. Выцягнулі – і ён лёг на дзірван выдзеўбаным чалавечым тварам да шукальнікаў.

Па знешнім выглядзе знаходкі (памер і форма чалавечай галавы) спецыялісты сцвярджаюць, што гэтая рукатворная работа – паганскіх часоў. І "галаве" 800–900 год.

У сераду пад аховай знаходка адпраўленая ў сталічны інстытут археалогіі. Крыху пазней можна будзе больш дакладна гаварыць пра яе.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

## Расклад руху электрацягнікоў
### па ст. Маладзечна з 18 кастрычніка 1999 г.

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | Без прыпынкаў | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 4.30 | 6.12 | Сел., Кр., Леб. – пндз | 4.28 | 6.04 | |
| 5.30 | 7.17 | Леб. – пндз | 5.24 | 7.08 | |
| 6.03 | 7.45 | Сел., Кр. | 6.32 | 8.12 | |
| 6.30 | 8.19 | Леб. – пндз | 6.55 | 8.19 | |
| 7.42 | 9.29 | Леб. – пндз | 7.36 | 9.26 | |
| 8.26 | 10.13 | Леб. – пндз | 8.20 | 10.06 | |
| 8.59 | 10.47 | Леб. – пндз | 9.00 | 10.48 | |
| 9.55 | 11.44 | | 9.53 | 11.41 | |
| 10.47 | 12.36 | пндз, аўт, срд, чцв | 9.41 | 11.20 | вых. |
| 11.00 | 12.49 | птн, вых. | 11.03 | 12.51 | |
| 11.41 | 13.21 | Рам., Ан., Хм., М.М. – вых. | 12.00 | 13.47 | |
| 12.55 | 14.43 | Леб. – пндз | 12.56 | 14.42 | |
| 13.42 | 15.29 | Леб. – пндз | 13.38 | 15.19 | |
| 14.34 | 16.24 | | 14.59 | 16.40 | птн, вых. |
| 15.31 | 17.19 | | 15.21 | 17.10/17.17 | |
| 16.02 | 17.34 | Сел., Кр., Ласі, Рам., Вяз., Ан., Хм., Зял., Крыж. – птн, вых. | 16.15 | 18.02 | |
| 16.26 | 18.13 | Леб. – пндз | 16.50 | 18.44 | |
| 17.18 | 19.03 | | 17.35 | 19.22 | |
| 17.50 | 19.36 | | 18.28 | 20.15 | |
| 18.27 | 20.13 | | 19.13 | 21.00 | |
| 19.48 | 21.28 | Хм., Леб. | 20.24 | 22.10 | |
| 20.26 | 22.08 | Леб. | 21.30 | 23.14 | |
| 21.05 | 22.50 | Леб., Сел. | 22.33 | 0.11 | |
| 22.25 | 23.56 | Сел., Ласі, Баяры, Прал., Ан., Хм., Зял., Крыж., М.М., Леб. | | | |

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў
### па ст. Маладзечна з 18 кастрычніка 1999 г.

| Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | Заўвага | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.37 | 10.18 | | 5.20 | 7.05 | |
| 13.20 | 15.09 | вых. | 10.36 | 12.15 | |
| 15.41 | 17.24 | | 15.30 | 17.20 | вых. |
| 18.00 | 19.54 | | 17.39 | 19.18 | |
| 20.40 | 22.09 | | 20.24 | 22.07 | |

| Маладзечна адпр. | Ліда прыб. | Заўвага | Ліда адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.30 | 11.43 | | 4.13 | 7.30 | |
| 12.33 | 15.47 | вых. | 8.47 | 12.10 | |
| 17.58 | 21.26 | | 12.00 | 15.20 | вых. |
| 20.32 | 23.46 | | 16.09 | 19.27 | |

| Маладзечна адпр. | Крулеўшчына прыб. | Заўвага | Крулеўшчына адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.29 | 10.53 | Пол. 13.03 | 4.35 | 6.59 | |
| 12.27 | 14.56 | вых. | 15.18 | 17.40 | вых. |
| 20.35 | 22.56 | | 17.07 | 19.38 | адпр. з Пол. у 14.38 |

ГАНДАЛЬ

# Міністр гандлю інспектуе магазіны Смаргоні

*СМАРГОНЬ. У аўторак горад наведаў міністр гандлю **Пётр Казлоў**. Ягоны прыезд невыпадкова супаў з правядзеннем пашыранай калегіі ўпраўлення гандлю, грамадскага харчавання і спажывецкіх тавараў Гродзенскага аблвыканкома. Міністр знешне (асабліва, у профіль), па паводзінах нагадваў Міхаіла Гарбачова. Не хадзіў па падсобках, даючы "і ў хвост, і ў грыву", а інтэлігентна распытваў, гутарыў з прадаўцамі і пакупнікамі. Увогуле, убачаным застаўся задаволены.*

За хвіліну да ад'езду міністра і ўдзельнікаў "калегіі па магазінах" старшыня Смаргонскага райвыканкома **Мікалай Кавалёў** сказаў:

– Да аб'яднання выканаўчых структур горада і раёна гарадскі гандаль на 6 мільярдаў даваў страты. За тры апошнія гады сітуацыя змянілася карэнным чынам.

Маршрут быў выбраны, каб паказаць нейкія новыя напрацоўкі, адметныя асаблівасці мясцовага гандлю. Напрыклад, магазін "Каласок" спажыўтаварыства першы ў горадзе зрабіў еўрарамонт (дагэтуль многія і не ведалі, што гэта такое).

Фірменны магазін "Кніжны свет" Мінскай фабрыкі каляровага друку перададзены фабрыцы за даўгі.

Вытворча–камерцыйнае прадпрыемства "Журавінка" знаходзіцца ў былым будынку аўтавакзала. Гандлёвая плошча магазіна з часам павялічылася ад 40 $м^2$ да 122 $м^2$.

Малое дзяржаўнае прадпрыемства "Ніва–ЗАС" месяц таму адкрыла ў сваім кафэ залу беларускай кухні. Беларускія стравы, якія найбольш падабаліся кліентам, выносіліся на разгляд так званага Савета. Пасля зацвярджэння, такім чынам, складалася меню.

Магазін дзяржаўнага гандлёвага прадпрыемства "Алеся" пачынаў з поўнага нуля, калі нават сістэма ацяплення была поўнасцю сапсаваная. Сёння гэты магазін працуе так, што да яго далучылі яшчэ 2 магазіны, рэстаран, піўны бар, кандытарскі цэх.

У "Гаспадарчых таварах" ААТ "Ліст" самы моцны ў рэгіёне (на іх думку) цэнтр па продажы запчастак да аўтамабіляў.

### Інтэрв'ю міністра Пятра Казлова для "РГ"

– Не ведаю, наколькі гэта тычыцца вашай газеты, але многія сродкі масавай інфармацыі нас крытыкавалі, – сказаў міністр, – маўляў, міністэрства праз пальцы глядзела, калі магазіны скарачалі штатныя адзінкі работнікаў. На самой жа справе, гандаль прыводзіўся ў парадак. Колькасць работнікаў павінна суадносіцца з тавараабаротам.

**– Скажыце, на вашу думку, асартымент тавараў смаргонскіх магазінаў задавальняе насельніцтва?**

– Мы, звычайна, маем набор тавараў. Каб забяспечыць жыццядзейнасць людзей. Чалавек жа павінен мець выбар. Напрыклад, з 40 сартоў сыру выбраць адзін, які даспадобы. І так ва ўсім. Смаргонь, як і іншыя гарады, пакуль мае набор тавараў.

**– Сёння цяжка набыць электрабытавую тэхніку айчыннай вытворчасці. Прыкладам, тэлевізары. Чаму ўзнікла такая сітуацыя?**

– Тэлевізары трэба рабіць, а мы будзем прадаваць. За намі нейкіх замінак не будзе.

**– Ваш прыезд, зразумела, рыхтавалі.**

– Ведаеце, я адразу бачу, калі ўлады працуюць на паказуху. У Смаргоні я гэтага не заўважыў.

### Пытанні міністра да кіраўнікоў мясцовага гандлю

**– Ці можа наш гандаль працаваць без абедзеннага перапынку?**

Дырэктар ТАА "Ліст" **Леанід Дубіцкі**:

– Мы так і працуем, у адрозненне ад дзяржаўных магазінаў. Гэта апраўдана.

**– Ці ёсць у продажы элітная мэбля?**

Дырэктар дзяржаўнага гандлёва–вытворчага прадпрыемства "Алеся" **Людміла Жураўлёва**:

– Мы працуем з рознымі катэгорыямі насельніцтва. У нас ёсць каталогі мэблі. Пакупнік можа праз нас не толькі заказаць мэблю, але і выбраць патрэбны колер.

**– Хто наведвае ваша кафэ?**

Дырэктар МДП аграгандлёвая фірма "Ніва–ЗАС" **Мар'ян Дэмбоўскі**:

– Моладзь, каля 120 чалавек на дзень. За месяц маем да 5 мільярдаў выручкі. Работа паказала, што ў горадзе ёсць людзі, якія і 1,5 мільёна за ўваход могуць заплаціць.

**– Як становяцца гаспадарамі магазінаў?**

Дырэктар ВКП "Журавінка" **Надзея Маляванава**:

– Нашае прадпрыемства прыватызаванае праз аўкцыён у чэрвені 1998 года, створана на базе дзяржаўнага гандлёвага прадпрыемства "Журавінка". Потым мы ўзялі крэдыт. Пагасілі ўжо тры мільярды. Працуем з прыбыткам, будзем яшчэ пашырацца. Ёсць праект адкрыцця кафэ. Яно размесціцца на 2 паверсе нашага будынка.

Міністр ад душы пасмяяўся са "свавольства" Мар'яна Дэмбоўскага. Былы магазін "Дзіцячы свет" стаў падпарадкоўвацца "Ніва–ЗАС". І па дакументах праходзіць, як "дзяржаўны ўніверсальны магазін". Дырэктар МДП павесіў на ўваходзе шыльду – ЦУМ.

А вось "сапсаваў настрой" міністру Леанід Дубіцкі. Ён шчыра сказаў, што ягоны магазін ідзе на дно. Усе даходы з'ядае інфляцыя.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

КУРСЫ ВАЛЮТ

## Курсы валют НБ РБ

| | 28 кастрычніка | 4 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 300 000,00 руб. | 303 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 162 905,26 руб. | 162 783,70 руб. |
| Літ | 74 981,25 руб. | 75 732,96 руб. |
| Рас. руб. | 11 680,00 руб. | 11 540,00 руб. |
| Злоты | 71 830,45 руб. | 71 614,28 руб. |
| ЕЎРА | 318 615,00 руб. | 318 377,25 руб. |

### "Вулічныя" курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 690 000–740 000 руб. | 680 000–720 000 руб. |



ЦЭНЫ НА ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 27.10 | 3.11 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 740 | 740 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2700 | 2680 |
| Сасіскі | 1 кг | 795 | 614 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 610 | 640 |
| Рыс | 1 кг | 420 | 400 |
| Грэчка | 1 кг | 540 | 540 |
| Цукар | 1 кг | 240 | 235 |
| Алей | 1 л | 630 | 620 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 217 | 217 |
| Маянэз | 250 г | 90 | 90 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 750 | 750 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | 270 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | 210 |
| Лімоны | 1кг | 630 | 700 |
| Кавун | 1 кг | 80 | 100 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | 160 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 300 | 300 |
| Масла | 1 кг | 1000 | 1000 |
| Тварог | 1 кг | 400 | 300 |
| Малако | 1,5 л | 130 | 150 |
| Бульба | вял.вядро | 500 | 500 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 250 | 280 |
| Яблыкі | 1 кг | 180-200 | 250-300 |
| Капуста | 1 кг | 40 | 40 |
| Морква | 1 кг | 140 | 120 |

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Івянцы будзе вучылішчэ

**Воложын, Віленскай губ., Ашмянскага пав.**

Трудно жыць у нашым мястэчку, бо саўсім нема работы. Іосць адна фабрыка агнёвай сушкі, але там такая малая плата, што пратрываць трудно. За працу ад 7 гадзін раніцы да 8 вечэра плацяць 25 капеек. А к таму ешчэ пьянства вялікае шырыцца ў нас. На фабрыцы працуюць найбольш дзяўчаты, але і яны пьюць добра.

*Марцін.*

**Івенец, Мінскай губ. і пав.**

З восені гэтаго году аткрываецца ў нас 4–х класное гарадзкое вучылішчэ. Вучыцелёў ешчэ німа, але скора павінны прыехаць. Патроху распаліваюць агонь свету і па нашай Беларусі, але на вялікі жаль ешчэ ў чужой малозразумелай народу мове.

*Сын Пятрука.*

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №44 ад 29 акцябра 1909 года.**

## З Даўгінава тысячамі вывозяць гусей

**М. Даўгіново, Віленскай губ., Вілейскага пав.**

Каля нас с поля сабраліся добра; жыты сеялі ў пору і рунь добрая; беда толькі, што дарагоўля трымаецца; вось за пуд бульбы трэба плаціць 20–23 кап. Кірмашы ў нас добрыя: народу збіраецца і гандэль ідзе воўстра, а найбольш на гусей – тысячамі іх вывозяць.

У нашым мястэчку ёсць два сябры: Ан. і Е., каторы колькі разоў быў у адседце, відаць турма саўсим сапсула небарака, і ёсць быўшы салдат Ігн. З. – пьянюшка. Вось, абодва добра налізаўшыся, Ан. на закуску так даў паленам па Іг–вай галаве, што той і з ног зваліўся, і бадай ці выскарабецца.

*В. С—кі.*

**М. Валожын, Мінскай губ. Ашмянскага пав.**

На ўсходняй часьці нашага мястэчка ёсць ладны ўзгорак, на каторым жыве паселіўшыся бацюшка; гэты ўзгорак пачынаецца ад мястэчка агародом, а канчаецца невялікім курганом памеж двох дарог і там як відаць, былі некалісь магілкі. Якіе яны былі, аб гэтым ніхто з нашых старых ня помніць, і нямашака ніякога аб іх успамінку. Ешчэ за нашэй памяцей на сярэдзіне таго курганчыка стаяла маленькая каплічка, пасьля стары бацюшка яе прыняў і на тым мейсцы паставіў чыгунны крыж. Цяпер земля па крысе абваліваецца і адтуль выпадаюць людзкіе косьці: галёнкі, скрабы і чэрапы і валяецца гэта ўсё па дарозе, дзе ходзяць і ездзяць людзі, і ганяюць скаціну. Смутны і прыкры гэта выгляд, каб гэтак людзкіе косьці валяліся ў паняверцы.

*Стары Улас.*

**Першая Беларуская Газэта з Рысункам "Наша Ніва". №45 ад 5 наябра 1909 года.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

З НАТУРЫ

## Бычок з дачы



*Мар'ян Мурашка са сваім гадаванцам Красаўчыкам.*

ФОТА МІХАСЯ РАЗУМНІКА.

СМАРГОНЬ Многія гараджане гадуюць на дачных участках курэй, свіней, бо не разлічваюць на дзяржаву. Не кажучы ўжо пра высокія ўраджаі агуркоў, памідораў, іншай зеляніны.

Але, напэўна, усіх пераўзышоў **Мар'ян Мурашка**. Каля двух дзесяткаў год мае ён участак у садаводчым таварыстве "Мара" паблізу ад вёскі Асінаўка. Трымаў свіней, пазалетась прадаў аднаго бычка, а на яго месца адразу ж паставіў маладзенькага. За год і сем месяцаў "давёў" яго да вагі без малога 470 кілаграмаў.

*Павел МАКЛЮК.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Затрыманы махляр, так званы майстар па рамонце тэлефонных апаратаў

МАЛАДЗЕЧНА. 49–гадовы грамадзянін Расіі па прозвішчы **Шарапаў** "аказваў паслугі" гараджанам. Правяраў тэлефонны апарат, раіў змяніць у ім мікрафон за 500 тысяч беларускіх рублёў. Мікрафон, які выцягваў з апарата папярэдняга кліента, ставіў наступнаму даверліваму грамадзяніну.

Геаграфія паходжанняў махляра высвятляецца міліцыяй. Адказваць расіянін будзе па беларускіх законах.

*Аддзел інфармацыі.*

КУЛЬТУРА

## Прэзентацыя кнігі пра М.–К. Агінскага

*СМАРГОНЬ. У мясцовай дзіцячай школе мастацтваў імя М.–К. Агінскага адбылася прэзентацыя кнігі Анджэя Залускага "Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага", якая выйшла сёлета ў мінскім выдавецтве "Чатыры чвэрці".*

У прэзентацыі кнігі ўзяў удзел і выступіў сам аўтар – прапраўнук М.–К. Агінскага, які прыехаў спецыяльна на мерапрыемства з Англіі, дзе ён жыве. Аўтар гаварыў папольску, таму яго словы не патрабавалі перакладу.

Загадчыца аддзела культуры райвыканкома **Соф'я Лазар** адзначыла, што на Смаргоншчыне шануюць імя гэтага выдатнага чалавека: у Залессі захоўваецца сядзіба, у якой ён жыў больш за дваццаць гадоў, адна са смаргонскіх вуліц і дзіцячая школа мастацтваў названыя яго імем. У Смаргоні ўжо адбылося шэсць міжнародных конкурсаў імя М.–К. Агінскага.

Галоўны рэдактар выдавецтва "Чатыры чвэрці" **Ліліяна Анцух** расказала пра стварэнне кнігі, а загадчыца аддзела маркетынгу цэнтральнай раённай бібліятэкі **Яніна Мураўская** падрабязна спынілася на структуры і змесце.

На прэзентацыі гучала музыка ў выкананні вучняў і выкладчыкаў дзіцячай школы мастацтваў. Спадабалася "Песня гасцей" з дзіцячай оперы мясцовага кампазітара–аматара **Сяргея Верамейчыка** "Сон Антожкі", якая прысвечаная М.–К. Агінскаму.

*Віктар ШОЦЬ.*

## Беларусь у фотаздымках

*ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале музея адкрылася выстаўка 63–гадовага мінскага фатографа Яўгена Казюлі. Усяго прадстаўлена 60 работ на тэму "Мая Беларусь" (прырода, людзі, помнікі культуры і архітэктуры).*

Большасць з іх прысвечаная Віцебскай вобласці. **Яўген Казюля** шмат падарожнічаў там і свае ўражанні адлюстраваў у фотаздымках.

Выстаўка будзе працаваць да 30 лістапада. Яе можна наведаць кожны дзень з $9^{30}$ да $17^{30}$, у нядзелю з $10^{00}$ да $15^{00}$, панядзелак – выхадны. Кошт дзіцячага білета 10 тысяч, дарослага – 20 тысяч.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

# МЯСТЭЧКА СЛАЎНЫ СЫН

## Дарога вяла ў Вільню

Непрытульна дзьмуў халодны асенні вецер. Імжэў беспрасветны дождж. Адарваўшыся ад матулі-бярозкі жоўценькі лісток упаў у лужыну. Вечарэла. Быў пачатак лістапада 1937 года. Невысокага росту, атлетычнага целаскладу мужчына, цяжка ўздыхнуў, паправіў свае русыя, крыху кучаравыя валасы і перавёў погляд на незакончаную карціну. Яна свяцілася фарбамі расквітнеўшай прыроды - яго зямлі, яго Беларусі. І міжволі пачалі наплываць успаміны...

Нарадзіўся ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Бацька працаваў садоўнікам у мясцовага пана Свентаржэцкага, а маці па гаспадарцы. Работы ёй хапала: накарміць, абмыць, прылашчыць і дагледзець шаснаццаць дзяцей было не так проста. Ды і па гаспадарцы трэба было паспець. З маленства дзеці далучаліся да немудрагелістай, але цяжкай і пачэснай працы селяніна. Прыходзілася рабіць усё, што патрабавалася. Але цяга да прыгожага жыла ў душы Рамана Мацвеевіча Семашкевіча з малых гадоў. У свой час стары віленскі журналіст Янка Багдановіч, які вучыўся з Семашкевічам у беларускай гімназіі, распавёў мне, аўтару гэтых радкоў, адзін цікавы выпадак, пачуты з вуснаў самога мастака.

Гэта было прыблізна ў 1906 годзе ў родным мястэчку Лебедзева, што на Маладзечаншчыне. Раману Семашкевічу шэсць годзікаў. Ён ходзіць па вялікім і прыгожым панскім садзе, дзе працуе садоўнікам яго бацька, які, ласкава ўсміхнуўшыся, кліча яго да яблыні. Раман подбегам набліжаецца. "Бачыш, якая прыгажосць, якое хараство?" – пытаецца бацька і паказвае на галінкі грушы. Як заварожаны, ўзіраецца хлопчык на гэты цуд прыроды. Белыя з ружаватым адценнем пялёсткі, здаецца, хочуць дакрануцца да Рамана і пагладзіць яго. А па небе плывуць светлыя, малочныя аблокі, і ўсміхаецца сонца. "З таго амаль часу я пачаў маляваць", - гаварыў Семашкевіч Янку Багдановічу. Гэтыя словы ўскосна пацвярджае і жонка мастака Надзея Васільева ў артыкуле "Двойчы забіты", які змешчаны ў часопісе "Мастацтва" (№ 1, 1998 г.).

З маленства Раман навучыўся іграць на розных музычных інструментах. Асабліва падабалася мандаліна. Але першым яго захапленнем, сэнсам яго жыцця станавілася мастацтва. Гэта былі яго альфа і амега, яго духоўны пачатак і канец. Набыць фарбы не было за што, дык выціскаў сок з кветак і ім маляваў. Пісаў партрэты знаёмых, сваякоў, сяброў, а з натуры – краявіды і нацюрморты. Кожную вольную хвіліну, якіх бывала не так і багата, ён нешта маляваў, замалёўваў, перамалёўваў. Атрымаўшы пачатковую адукацыю ў родным Лебедзеве, вырашыў вучыцца далей. Балазе і бацькі былі не супраць. Ад сваякоў даведаўся пра адкрыццё беларускай гімназіі ў Вільні, тагачасным цэнтры нацыянальнай культуры. Вырашыў паспытаць шчасця.

У Вільню прыехаў у 1919 годзе. Беларусь была ахоплена полымем грамадзянскай вайны. Часта мяняліся ўлады. Кайзераўцы, легіянеры Пілсудскага, чырвоныя. Здавалася, што суцэльная і беспрасветная ноч апусцілася над роднай зямлёй і яе жыхарамі.

Ну, а як жа сустрэла Вільня Рамана Семашкевіча? Неаднaзначна. Найперш, здзівіла. Сваім размахам, памерамі, шматтысячным насельніцтвам, вышыннымі дамамі і помнікамі сівой даўніны. Да таго ж, на вуліцах было поўна польскіх жаўнераў, якія адчувалі сябе тут гаспадарамі.



*Раман Семашкевіч*

ФОТА З АРХІВА «РГ»

Вось як апісваў Вільню тае пары Янка Багдановіч у сваёй кнізе "На жыццёвым шляху": "У тым часе у Вільні ходнікаў яшчэ не было. На вуліцах былі пакладзены цэглы або дошкі, па якіх прыходзілася хадзіць. Электрычнага святла таксама не было, а калі і было, дык вельмі мала. Горад асвятляўся газам... Што датычыцца камунікацый аўтобусаў – нават і мовы не было. Па вуліцах ездзілі дарожкі-вознікі, а іх было ў той час вельмі многа". З цяжкасцю адшукаў Раман Семашкевіч славутыя Базылянскія муры, дзе размяшчалася беларуская гімназія. Падаў заяву на імя дырэктара і пачаў рыхтавацца да экзаменаў. Прыйшлося і пахваляваца. А раптам не паступіць? Але ўсё абышлося найлепшым чынам. Экзамены былі паспяхова здадзены, і вось ён вучань трэцяга класа Віленскай беларускай гімназіі. Жыць давялося ў Беларускім прытулку для сірот і малазабяспечаных дзяцей, які заснаваў ксёндз Адам Станкевіч.

У той час грамадскае і культурнае жыццё ў гімназіі віравала. Моладзь ставіла спектаклі, наладжвала святочныя імпрэзы, прысвечаныя славутым нацыянальным дзеячам і гістарычным падзеям. Урачыста адзначаліся чарговыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Вучні выдавалі рукапісныя газеты і часопісы, сярод якіх найбольшай папулярнасцю карысталіся "Крапіва", "Муха", "Камар", "Усход", "Рэха" ды іншыя. Іх рэдактарамі былі лідэры вучнёўскай моладзі В. Янчуковіч, Я. Урбановіч, А. Салагуб. З першых дзён знаходжання ў гімназіі за Раманам замацавалася слава сур'ёзнага чалавека і адказнага мастака. І таму ўсё мастацкае афармленне гімназічных "перыядычных" выданняў лягло на яго неакрэплыя плечы. Безумоўна, Раман адчуваў, што бракуе майстэрства, ведаў, але з усіх сіл стараўся. Што праўда, дапамагалі іншыя. Прыкладам, той жа Васіль Сідаровіч, які паходзіў з вёскі Сівіцы, што на Смаргоншчыне. Таленавіты хлопец, цікавы мастак, ён у будучым раздзяліў незайздросны лёс са сваім крыху старэйшым таварышам.

За ўпартай вучобай, актыўнай грамадскай працай імклівай птушкай пралятаў час. Ішлі дні, ляцелі тыдні і месяцы, праходзілі гады. Непрыкметна сыходзіла завейная і ганарыстая зіма, за ёй спяшалася галасістая і далікатная вясна, раптоўна з'яўлялася сонечна-вясёлкавае лета, ішла сумная і велічна-трагічная восень. Пазней усё паўтаралася спачатку, як бясконцы калаўрот чалавечага жыцця. Тым часам Раман Семашкевіч сталеў. Сталеў не толькі гадамі, але і думкамі, жаданнямі, майстэрствам. Рабіўся асобай.

У лютым 1923 года пры Віленскай беларускай гімназіі пачаў выходзіць маладзёжны часопіс "Рунь". Ён быў невялікі па аб'ёме, налічваў усяго 38 старонак друку ды выдаваўся на гектографе. А сваім зместам нічым не адрозніваўся ад аналагічных школьных выданняў. Вершы і апавяданні гімназістаў, артыкулы пра школьнае жыццё, беларуская народная творчасць. Рэдактарам гэтага выдання быў зямляк Рамана Семашкевіча, выдатны паэт Алесь Салагуб, які паходзіў з вёскі Зарудзічы Смаргонскага раёна. Землякі, аднадумцы, мо, нават сябры, яны хутка знайшлі агульную мову. Недзе з трэцяга нумара рэдактар прапанаваў Семашкевічу аздобіць часопіс паводле свайго густу і разумення. І Раман не адмовіўся.

Вонкава глядзіцца часопіс вельмі прыстойна. Назва выдання выдзелена лаканічным прыгожым шрыфтам на фоне беларускага краявіду з дрэвамі. Старонкі часопіса ўпрыгожаны застаўкамі і канцоўкамі, што стварае пачуццё цэльнасці і гарманічнага суладдзя. Часта малюнкі з'яўляюцца ілюстрацыямі да твораў аўтараў, а часам носяць самастойны характар. Так, на старонках выдання былі змешчаны партрэты Антона Трэпкі і Янкі Катовіча. Гэта былі заслужаныя людзі на ніве беларускага адраджэння. Напрыклад, А. Трэпка ў той час працаваў выкладчыкам фізікі у Віленскай беларускай гімназіі. Строгі, педантычны, нават крыху сухаваты (такім мы яго бачым на партрэце), тым не менш, быў вельмі паважаны сярод гімназістаў. Яго пяру належаць два падручнікі па гэтым прадмеце: "Фізіка. Механіка і цеплыня" і "Фізіка. Акустыка і оптыка" (Вільня, 1922, 1924 г. г.). А таксама падручнік па аналітычнай геаметрыі, які выйшаў у 1927 годзе ў Вільні. На працягу доўгага часу Антон Трэпка быў сябрам Беларускага навуковага таварыства і Беларускага выдавецкага таварыства. Ну, а Янка Катовіч выкладаў батаніку ў Віленскай беларускай гімназіі. Быў чулы і добразычлівы чалавек. У прынцыпе, іх партрэты атрымаліся. Акрамя знешняга падабенства, што вельмі важна для работ рэалістычнай школы, мастаку ўдалося пранікнуць і ў іх унутраны свет, паказаць іх інтэлігентнасць, высакароднасць, чалавечнасць. Хоць, праўда, і адчуваецца яшчэ пэўная наіўнасць у малюнку і ў кампазіцыйнай пабудове. Але першы крок на ніве служэння сапраўднаму мастацтву быў зроблены, і зроблены ўдала. Мастака заўважыла шырэйшае беларускае грамадства і, па магчымасці, пачало падтрымліваць.

А сам Раман Семашкевіч спяшаўся жыць. У яго ніколі не было вольнага часу, вольнай хвілінкі. Стараўся прымаць актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці, добра вучыцца і бясконца маляваць. Яго як бы "распірала ад неўтаймоўных вобразаў". Позна клаўся спаць і рана ўставаў. Безупынку маляваў гімназійных сяброў, любімых выкладчыкаў, беларускіх грамадскіх дзеячаў, кварталы старой, мудрай Вільні, краявіды і нацюрморты. Па словах Янкі Багдановіча, "Семашкевіч не толькі маляваў на палатне, але займаўся і скульптурай". Аднойчы з гліны зляпіў свой партрэт, дык гімназісты (вось жулікі!) прыляпілі рогі і назвалі "баранам". Неяк пры нагодзе на сценах прытулкавай спальні напісаў вялікую алегарычна-сімвалічную карціну "Распяцце Хрыста на крыжы". З тае пары гімназісты перад ёй "заўсёды ранііцай і вечарам маліліся". Па ўспамінах сяброў, быў незвычайна працавіты, "ніколі часу не марнаваў", а прыйшоўшы з заняткаў, "адразу браўся за сваю працу: маляваў, ляпіў..." Адным словам, жыў для мастацтва і мастацтвам. Цяпер проста ўражвае, адкуль бралася энергія ў гэтага простага адкрытага хлопца з глухога заходнебеларускага мястэчка.

Недзе з 1924 года Раман Семашкевіч пачаў наведваць мастацкую студыю Язэпа Драздовіча. І вось тут яму пашанцавала. Ён знайшоў тое, што шукаў. У першую чаргу, аднадумцаў. Так, у асобе Язэпа Драздовіча – старэйшага сябру, мудрага дарадцу і апантанага мастака, які, як і Семашкевіч, жыў мастацтвам і стараўся быць карысным для свайго народа. У той час імя Язэпа Драздовіча грымела: жывапісец, графік, скульптар, пісьменнік, мовазнаўца, астраном... І ўсюды аўтарытэтны, паважаны, непахісны. Ён і студыю тую заснаваў з адзінаю думкаю-мараю: збіраць і выхоўваць нацыянальныя мастакоўскія сілы. Там Семашкевіч знайшоў і сяброў. Акрамя ўжо вядомага Васіля Сідаровіча займаліся ў студыі ціхі і непрыкметны Мікола Васілеўскі, непасрэдны Янка Хвораст, задуменны Уладзімір Шышко, апантаны Янка Шырма, інтэлігентны Янка Доўнар ды іншыя. Праўда, правучыўся Раман Семашкевіч там нядоўга. Недзе каля года. Цягнула вучыцца далей, што ва ўмовах тагачаснай Польшчы было нерэальна. Таму і вырашыў падацца ў Савецкі Саюз, дзе "будуецца беларускі Дом і ўсім – бясплатнае навучанне".

## З верай у абяцаны рай

Невядома, калі – цёмнай зімовай ноччу ці сцюдзёным вясеннім ранкам – перайшоў ён польска-савецкую мяжу, але ўжо ў 1925 годзе быў Раман Семашкевіч у савецкім Менску. З ягонай лёгкай рукі ўслед за ім падаліся ў БССР мастакі Мікола Васілеўскі, Васіль Сідаровіч, а крыху пазней і паэт Алесь Салагуб – сябры па гімназіі і беларускай культуры. Ехалі, каб вучыцца... У Менску Раман Семашкевіч доўга не затрымаўся. Яму карціла працягваць вучобу, а навучальнай мастацкай установы ў сталіцы не было. Давялося ехаць у Віцебск.

У тыя гады Віцебск быў своеасаблівым заканадаўцам мастацкіх мод. Яшчэ не паспелі астыць на яго брукаваных маставых сляды вялікага Марка Шагала, славутых Казіміра Малевіча і Мсціслава Дабужынскага. Яшчэ скрозь і ўсюды адчувалася іх магічная прысутнасць і геніяльная сіла. І таму невыпадкова, што якраз тут, у гэтым славутым горадзе, у 1923 годзе быў адчынены Віцебскі мастацкі тэхнікум – першая навучальная ўстанова такога тыпу на тэрыторыі БССР. Кіраўніцтва тэхнікумам ажыццяўлялася Народным камісарыятам асветы, а першым ягоным дырэктарам быў мастак М. Керзін. Выкладчыкамі працавалі, ў асноўным, мастакі рэалістычнай школы. Сярод іх Валянцін Волкаў, Міхась Эндэ, Мікола Міхалап, Іван Ахрэмчык ды іншыя. У тэхнікуме вывучалі жывапіс, малюнак, скульптуру, пластычную анатомію, гісторыю літаратуры, гісторыю мастацтва (апошнія дзве дысцыпліны выкладалі выдатныя навукоўцы Мікола Каспяровіч і Пятро Даркевіч), перспектыву, фізіку, хімію, ды іншыя прадметы, а з 1925-га года ў тэхнікуме пачалі працаваць графічная, ганчарна-керамічная і дэкарацыйная майстэрні.

У тэхнікум Раман Семашкевіч паступіў у тым жа 1925 годзе на скульптурнае аддзяленне. Быў вельмі задаволены. А як жа, ён вучыцца! А тут і магчымасць надарылася, каб паказаць свае работы шырокаму гледачу. Адкрывалася першая Усебеларуская мастацкая выстава, якая прысвячалася дзвюм вялікім падзеям – 20-годдзю першай рускай рэвалюцыі і 400-годдзю беларускага кнігадрукавання. У ёй удзельнічала 85 беларускіх жывапісцаў, скульптараў і графікаў. Праўда, не абышлося і без лыжкі дзёгцю. Партыя "прапаноўвала" для распрацоўкі 14 тэм з гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы беларускага і рускага народаў: "Паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага", "Барацьба за савецкую ўладу ў гады грамадзянскай вайны", "Вызваленне Беларусі ад акупантаў", "Братэрскае адзінства народаў СССР", "Барацьба з міжнародным капіталам" ды іншыя. Тэмы самі па сабе былі не самыя горшыя, але не падабалася Раману Семашкевічу тое, што душылася ініцыятыва, гвалтам навязвалася чужая думка, ды яшчэ ў прымусовым парадку. Але работы для выставы даў: дзве жывапісныя і адну скульптурную, партрэты. Найбольш удалымі атрымаліся жывапісныя партрэты Антона Грыневіча і рабфакаўца. Што датычыцца скульптурнай работы "Камсамолка", то яна не выходзіла за рамкі вучэбнага эцюду і "першых, яшчэ няўпэўненых, спроб".

Жыць у тэхнікуме было няпроста. Не хапала прадуктаў харчавання, адзення, мастакоўскіх прыладаў працы. Але на такія "дробязі" стараўся не звяртаць увагі. Галоўнае і адзінае, што для яго было важна, дык гэта магчымасць пісаць. Пісаць заўсёды і ўсюды, у неверагоднай цеснаце і тлуме, холадзе і голадзе. І няважна, што чаравік для трываласці перавязаны дротам, і можа праз секунду з яго вылезці палец, галоўнае - пісаць, пісаць, пісаць. Ён быў проста апантаны мастацтвам. У сваіх успамінах жонка мастака пісала: "Жыў Семашкевіч як птушка нябесная. Не ведаючы, што будзе заўтра есці, піць, у што апранацца".

## Самотнае рэха расстання

Віцебскі мастацкі тэхнікум скончыў у 1927 годзе і, як адзін з лепшых вучняў, быў накіраваны для далейшай вучобы ва Усерасійскі мастацка-тэхнічны інстытут (ВХУТЕИН), які знаходзіўся ў Маскве. Там быў залічаны на жывапіснае аддзяленне, дзе выкладалі такія вядомыя расійскія мастакі, як Кардоўскі, Герасімаў, Дрэвін ды іншыя. Прайшло не вельмі багата часу, як пра Рамана Семашкевіча загаварылі. У першую чаргу, маскоўская мастацкая эліта. Так, напрыклад, мастак М. Віцінг параўноўваў жывапісныя працы Семашкевіча з сімфоніямі Вагнера. Славутых і вельмі папулярных у той час Кукрыніксаў здзіўляла ў ягонай творчасці "вастрыня выканання". А выдатны мастацкі крытык, чалавек тонкага густу, цудоўны знаўца старажытнага і тагачаснага расійскага і сусветнага мастацтваў Сяргей Ромаў увогуле называў Рамана Семашкевіча "геніяльным мастаком". Паміж іншым, апошні і пазнаёміў у 1930 годзе Рамана Семашкевіча з Надзеяй Васільевай, якая ў будучым стала яго жонкай і верным спадарожнікам жыцця. Якраз з яе успамінаў мы і ведаем найбольш поўна пра маскоўскі перыяд яго жыцця. А было яно вельмі неспакойнае. Бясконцыя выставы, сярод якіх толькі шэсць персанальных. Удзел у мастацкай групе "13". Вандроўкі па неабсяжных абшарах Савецкага Саюза. А што тычыцца працаздольнасці мастака, то тут можна толькі здзіўляцца. Сотні жывапісных і графічных работ, за якія моцна не трымаўся, а "дарыў, не шкадуючы", пры гэтым зведваў "вялікае задавальненне і радасць". Працаваў так, быццам прадчуваў свой хуткі канец. Не звяртаў аніякай увагі на быт. Няважна, што гэта была перанаселеная камунальная кватэра, галоўнае, каб было месца, дзе паставіць мальберт, і можна маляваць. І яшчэ. Стараўся заўсёды заставацца мужным, моцным і надзейным.

Праўда, была ў Рамана Семашкевіча адна слабасць, якую ён аніяк не мог перамагчы. Ды й не стараўся. Гэта бясконцая і шчырая любоў да сваёй Беларусі. Нават знаходзячыся ў Грузіі, ён, замест таго, каб маляваць прыгажосць паўднёвай раскошы, па словах жонкі, пісаў "пераважна беларускія бярозкі". Неаднойчы ўдзельнічаў ва Усебеларускіх мастацкіх выставах. Так, некалькі яго работ было выстаўлена ў Мінску ў 1929 годзе, а летам 1932 года персанальныя выставы мастака прайшлі ў Петрыкаве, Мазыры, Мінску. Ён стварыў шэраг партрэтаў вядомых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх былі Міхась Лынькоў, Андрэй Александровіч, Янка Купала, Якуб Колас, Валянцін Таўлай ды іншыя. На жаль, захаваўся толькі партрэт Валянціна Таўлая, які знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. У ім якраз і праявіліся каштоўныя якасці мастака: эмацыянальнасць, вялікая тэмпераментнасць пісьма, здольнасць пранікнуць ва ўнутраны свет чалавека. Партрэт напісаны проста, пластычна выразна і незвычайнай колеравай насычанасцю. Пра выставы мастака пісаў і беларускі перыядычны друк, адзначаючы яго цудоўны дар каларыста і вельмі выразную экспрэсіўную манеру. Яго любілі Янка Купала і Якуб Колас. Бываючы ў Мінску, ён заўсёды спыняўся ў гасцінных хатах нашых народных песняроў. А калі ў 1933 годзе ў Маскву прыехаў палітэмігрант, лідэр стотысячнай Грамады ў Заходняй Беларусі Браніслаў Тарашкевіч, то Раман падтрымліваў з ім добрыя, шчырыя чалавечыя стасункі. Часта сустракаліся, гаманілі, абмяркоўвалі надзённыя беларускія праблемы. Хоць добра ведаў, што на афіцыйным узроўні такія сустрэчы не віталіся. Мусіць, выкажу крамольную думку, калі скажу, што і загубілі Рамана Семашкевіча толькі таму, што быў беларускім нацыянальным мастаком "поўны, як мае быць". Ды і па іншых параметрах падыходзіў да знішчэння. Па-першае, не адмаўляўся ад сумнеўных кантактаў з недабітымі беларускімі нацдэмамі, па-другое, не баяўся, хоць і паходзіў з Заходняй Беларусі ды быў сынам панскага садоўніка, а па-трэцяе, неяк не ўпісваўся ў традыцыю тагачаснага савецкага мастацтва. Незадоўга да арышту наведаў Раман Семашкевіч Лепельшчыну. Цягнула дадому, ой як цягнула! А над яго галавой згушчаліся хмары...

Была глыбокая лістападаўская ноч. Дождж не пераставаў. Здавалася, што сцюдзёны ўсходні вецер хоча ўварвацца ва ўтульны і цёплы пакой. Мастак адклаў пэндзаль і паглядзеў на толькі што завершаную работу. На палатне панавала бязмежнае суладдзе. Вялікі сад, перапоўнены колерамі вясновых яблыняў і груш, звонам гудучых пчол, і сярод гэтай прыгажосці – маленькі хлопчык з шырока расплюшчанымі вачыма. Здаецца, яшчэ хвіліна, і ён паляціць... У гэты момант у дзверы пастукалі. Пастукалі гучна, патрабавальна. Праз нейкую хвіліну стук паўтарыўся. І ўжо не стукалі, а барабанілі нахабна і беспардонна. Раман Семашкевіч падняўся, абняў пабялелую жонку, міла ёй усміхнуўся і спакойна падышоў да дзвярэй...

Расстралялі Рамана Мацвеевіча Семашкевіча завейным снежнем 1937 года.

***Міхась КАЗЛОЎСКІ.***

## СУБОТА, 13 лістапада. Пр. Нікадзіма, Спірыдона, Стахія. Кат. Бенядзікта, Мікалая, Станіслава.

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 «Две жизни поэта»
8.15 Столица
8.40 Потребительская корзина
9.00 Новости
9.10 Книгосбор
9.40 «Сегодня с вами...»
10.05 Здоровье.
10.30 Вершина мира
10.55 Компьютерный полигон
11.20 «Все нормально, мама!»
11.55 Спортивные новости
12.15 Усадьба
12.40 Око. О рекламе и не только...
13.00 Новые имена
13.05 «Майк Тайссон»
14.00 Четвертое измерение
14.25 Олимп
15.00 Новости
15.10 Уроки Н.Новожиловой
15.35 Познай себя
15.55 «Капейдоскоп встреч»
16.40 Парламентский вестник
17.10 «По заповедным местам Беларуси»
17.40 Ток-шоу «Это моя работа»
18.15 КВН
19.40 Из достоверных источников
20.00 Новые имена
20.05 Бездельник
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.40 «Золотой шлягер - Могилев-99»
0.10 Белорусский хит-парад
0.25 Видимо-невидимо

### ОРТ

7.00 Новости
7.10 «Слово пастыря»
7.25 «Домашняя библиотека»
7.40 «Все путешествия команды Кусто»
8.30 «Играй, гармонь любимая!»
9.00 Новости
9.10 «Смак»
9.30 «100%»
10.00 «АЛЬФ» Сериал
10.30 «Утренняя почта»
11.05 «СЛУЖИЛИ ДВА ТОВАРИЩА» Героическая комедия
13.05 «В мире животных»
13.45 «История одного шедевра»
14.00 Новости
14.10 «ГОРЕЦ - IV». «ОГРАБЛЕНИЕ ВЕКА»
15.00 «Мультазбука»
15.35 «Неистовый Ролан»
16.15 «Тема»
17.00 Новости
17.10 «С легким паром!»
18.10 «ЖАНДАРМ НА ПРОГУЛКЕ» Комедия. Жандарма Крюшо вместе со всей бригадой отправили на пенсию, но друзья ненадолго остались без работы... Режиссер - Ж.Жиро. В ролях: Ж.Лефевр, М.Голабрю, К.Жанзак. Франция, 1970 г.
20.00 «Время»
20.55 Погода
21.00 «БЕШЕНЫЙ ПЕС И ГЛОРИ» Детективная комедия. Блестящий дуэт Роберта Де Ниро и Умы Турман. Тихий и скромный полицейский, в шутку прозванный Бешеным псом, спасает жизнь гангстеру. А тот в знак благодарности «дарит» ему на неделю потрясающую красотку...
22.50 «БЕЛОЕ ЗЛО» Триллер. В Кению приезжает с молодой женой состарившийся аристократ. Именно здесь развиваются трагические события, виной которым стала любовная история

### РТР

7.00 Мультфильмы
7.30 «Папа, мама, я - спортивная семья»
8.30 «Почта РТР»
9.00 «Доброе утро, страна!»
9.35 «Сам себе режиссер»
10.00 «Сто к одному»
10.50 «Хорошие новости»
11.15 «Золотой ключ»
11.30 «Сиреневый туман»
12.00 «Вести»
12.20 «Федерация»
13.00 «Урмас Отт с ...»
14.00 «На Здоровье»
15.05 «Приключения Астерикса»
16.00 «Акуна матата»
17.00 «Моя семья»
18.05 «Два рояля»
18.55 «Аншлаг» и Ко»
20.00 «Вести»
20.45 Фильм недели. «КОНТРАКТ СО СМЕРТЬЮ» Криминальная мелодрама. Искусный хирург Глеб Сергеевич Игнатовский заключает негласный контракт с аферистом крупного масштаба - депутатом Госдумы, который предлагает использовать человеческие органы «ненужных», на его взгляд, людей - воров, проституток, бомжей
23.05 «БАЙКИ У КОСТРА» Триллер. Режиссеры - Д.Семел, М.Кунерт, М.Купер. В ролях: Д.Фергюсон, К.Тэйлор, К.Мэрфи. США, 1996 г.

### НТВ

7.00 «Сегодня»
7.15 «КРУТОЙ УОКЕР: ПРАВОСУДИЕ ПО-ТЕХАССКИ»
8.00 «ЗЕРКАЛО, ЗЕРКАЛО» Сериал. Когда старшеклассница Джозефина поссорилась с мамой, папа подарил ей удивительное зеркало, купленное в антикварной лавке. Благодаря этому подарку девочка смогла путешествовать в прошлое... Режиссер - Дж.Банас. В ролях: П.Джеред, М.Банас, Н.Хуппер. Австралия, 1995 г.
8.30 «Битлджус»
9.00 «Сегодня»
9.15 «Криминал»
9.45 «Без рецепта»
10.15 «О, счастливчик!»
11.00 «Сегодня»
11.25 «Большие деньги»
11.55 «В нашу гавань заходили корабли»
12.50 «ЗОЛОТАЯ РЕЧКА» Продолжение опасных приключений, которые начались в фильме «Пропавшая экспедиция» На сей раз действие происходит в 1922 году, когда геологический комитет России поручает своему представителю Куманину выяснить, кто переправляет за границу народное золото...
14.25 «Своя игра»
15.00 «Сегодня»
15.25 «Любовные истории, которые потрясли мир»
15.55 «ОНА НАПИСАЛА УБИЙСТВО»
16.50 «Я и моя собака»
17.25 «Герой дня без галстука»
18.00 «Сегодня»
18.40 «Итого»
19.00 «ЗОНА ПРЕСТУПНОСТИ» Боевик. После удачного ограбления в живых остался один лишь Рой Иген. И он решил отомстить за смерть своих ребят, которых перестрелял один из его сообщников, желая получить крупный куш...
21.00 «Сегодня»
21.45 «Женский взгляд»
22.15 «ЕЕ ЗВАЛИ НИКИТА» Сериал
23.05 «Про это» Ток-шоу
23.45 «Я НЕ ЦЕЛУЮ» Драма о юном провинциале, который приехал покорять Париж

### ТВ-6

7.05 «Дорожный патруль»
7.20 Мультфильмы
7.50 «Необычайные приключения в волшебном лесу» 1-я с.
8.20 «Шоу Бенни Хилла»
9.00 Телемагазин в Минске
9.30 «Пальчики оближешь» .
10.05 Телемагазин в Минске
10.15 «КРИМИНАЛЬНЫЙ ТАЛАНТ»
13.00 «Территория ТВ 6»
13.35 «О.С.П-Студия»
14.30 «Это - Жириновский!»
14.55 «ФЛИППЕР III» Сериал
16.00 Новости
16.10 Телемагазин в Минске
16.15 Телемагазин в Минске
16.25 «Я сама» Ток-шоу
17.30 «Дорожный патруль»
17.50 «LEXX II» Сериал
18.45 «33 КВАДРАТНЫХ МЕТРА. ДАЧНЫЕ ИСТОРИИ»
19.30 «Скандалы недели»
20.05 «КАВКАЗСКИЙ ПЛЕННИК» Один из самых интересных российских фильмов последнего десятилетия - современный вариант известной повести Л.Толстого, снятый на материале чеченской войны. Режиссер - С.Бодров. В ролях: О.Меньшиков, С.Бодров-мл., Д.Сихарулидзе. Россия, 1996 г.
22.00 «ЦитаДЕНЬ»
22.10 «Дорожный патруль»
22.20 ДИСК-канал. Максидром
23.00 Безумный проект «Снято»
23.20 «Плейбой» Мягкая эротика на сон грядущий

### АСТ

5.00, 17.45 «Спорт без границ»
5.30, 17.30, 20.30, 23.30, 2.30 «Факт»
5.45 Мультфильмы
6.20 «ФАВОРИТ» Детектив 1-я с.
7.30 «В кругу друзей»
8.00 «Аистенок»
8.45 Фильм детям «МАЛЬЧИШКИ»
10.10 «Железная дорога» Д/ф
11.00 «Новые имена»
11.30, 3.00 «Вояж без саквояжа»
11.45 «Комедия ошибок» 1-я с.
12.55 «Вас приглашает Анастасия»
13.30, 23.00 «Мир ислама»
14.00, 21.00 «Очевидное-невероятное. Век XXI»
14.30 «ЗОЛОТОИСКАТЕЛИ»
15.55 «Я памятник себе...»
17.00 «Здравствуй, мама!»
18.15 «НОЧНЫЕ ЗАБАВЫ» 1-я с.
19.30 Алло, Россия!
20.00 «Кумиры экрана»
20.45, 2.45 «Студия «Факт» представляет...»
21.30 «ФАЛЬШИВАЯ ИЗАБЕЛЛА»
22.45 «Звезды музыкального кино»
23.45 «Вы нам писали...»
0.45 «ЧЕХОВСКИЕ СТРАНИЦЫ» 1-я с.
1.50 «Как прекрасно светит сегодня луна»
2.00 «Вас приглашает Анастасия»
3.15 «МЫ, НИЖЕПОДПИСАВШИЕСЯ»
4.25 «Цирк, только цирк!»

### Культура

9.05 «Читая Библию»
9.15 «ВОСКРЕСНЫЙ ДЕНЬ В АДУ» Двое заключенных бегут из концлагеря и попадают в зону отдыха немецких офицеров
10.45 «Мировая деревня»
11.00 «Освоение Дикого Запада»
12.25 «Аистенок»
12.50 А.П.Чехов «Стража под стражей»
13.00 «Времена и воины» «Викинги»
13.30 Новости культуры
13.45 «ЗАМОК ОЛИВ» Сериал
14.40 «Мой цирк»
15.05 «Свободным сердцем»
15.55 Мультфильмы
16.15 «Ангел с окурком» Е.Шифрин
17.10 «Театр одного художника»
17.30 Новости
17.35 «Рассказы старого сплетника» Имре Кальман.
18.00 «Вожди» Д/ф
18.40 «ВГИКу-80» «ЭСТАФЕТУ», ФЕБРУАРИЙ XXX. МАДРИД»
19.10 «Чудо-сказка»
19.20 «Царская ложа»
20.00 «Благая весть»
20.20 «Блеф-клуб»
21.00 «Новости культуры»
21.20 Э.Григ-Д.Эллингтон «Пер Гюнт»
22.05 «КРЕЙЦЕРОВА СОНАТА» 1-я с.

### ТВ-ЦЕНТР

7.00 Детский телеканал
8.15 «На караул!»
8.30 «СПАСАТЕЛЬ МАКГАЙВЕР»
9.30 «Подумаем вместе»
10.00 «События»
10.15 «С утра попозже»
10.45 «Стакан воды» Спектакль
12.25 Погода на неделю
12.30 Теннис. Кубок Кремля. Мужчины. Полуфинал
(В перерыве - 13.00 - «События»)
16.00 Мультфильмы
16.30 «Таланты и поклонники Малого»
17.30 «Легенды спорта»
18.00 «Брэйн ринг»
19.00 «Неделя»
19.45 «Мыло»
19.55 «МАГНАТ» Неподражаемый комик Денни Де Вито в собственной искрометной комедии о не слишком удачливом сценаристе, написавшем сценарий новой шоу-программы. Его брат, глава транспортной фирмы, - спонсор шоу «Хорошо сидим» Он-то и дает неудачнику последний шанс попробовать себя в шоу-бизнесе
21.55 «Документальное расследование»
22.50 «СЕНСАЦИЯ» Триллер. Эрик Робертс в роли университетского профессора открывает у студентки парапсихологические способности. С ее помощью он пытается раскрыть убийство своей возлюбленной. Но девушка начинает собственное расследование
0.40 «Парад плюс: выбери песню»

### ТНТ

9.00 «Пират-атака» Игра
9.30 «Планета монстров»
10.00 «ТАЙНЫЙ МИР АЛЕКС МАК» Сериал
10.30 «Европейский футбол на ТНТ»
11.30 «Тайны Ксапатана» Игра
13.00 «Пытливые умы»
13.30 «Открытые небеса»
14.30 «Сонник»
14.35 «СЕНЬОРА» Сериал
15.30 «ЧЕРНАЯ БУХТА» Сериал
16.30 «НА КРАЮ ВСЕЛЕННОЙ»
17.30 «Спутница королевы»
17.55, 21.30 «Глобальные новости»
18.00 «Я ЛЮБЛЮ ЛЮСИ» Сериал
18.30 «ПАПОЧКА-МАЙОР» 1-я с. Комедийный сериал. Закоренелый вояка и холостяк встречает женщину-журналистку и влюбляется в нее. Режиссер - В.Макензи. В ролях: Дж.МакРейни, Ш.Рид, М.Рьян, Н.Дубук, Ч.Хертфорд
19.00 «ТАКАЯ РАЗНАЯ ТРЕЙСИ» 1-я с.. Комедийный сериал. Режиссеры - М.Лэндж, Д.Скардино. В гл.роли - Трэйси Ульман.
19.30 «Титаны рестлинга на ТНТ»
20.30 «ПАРАДОКС» Сериал
21.35 «ЛИЧНАЯ ВЕНДЕТТА» Боевик. Режиссер - С.Либ. В ролях: М.Лессеос, Т.Боттомс, М.Випсон, Б.Даглас. США, 1995 г.
23.40 «Кино, кино, кино»
0.15 «Год «На-Ны»
1.40 «Я ЛЮБЛЮ ЛЮСИ» Сериал

### ЕВРОСПОРТ

9.30, 10.30 Экстремальный спорт
11.00 Санный спорт
12.00 Кольцевые мотогонки
13.00 Санный спорт
14.00 Теннис. Турнир АТП в Стокгольме
17.30 Аэробика. Чемпионат мира среди профессионалов
20.00 Теннис. Турнир АТП в Москве
20.30 Теннис. Турнир WTA в Филадельфии
22.00 Конный спорт. Кубок мира (Германия)
23.00 Футбол. Отборочный турнир Евро 2000
1.00 Мотогонки «Суперкросс»

### 8 канал

13.00 Телемагазин
13.15 «Далматинец-101»
15.00 Джойс Майер «Жизнь в слове»
15.30 Вас поздравляют!
17.30 «ЗОНА-51»
19.05 Музыкальная программа
20.05 «ДОН СЕЗАР ДЕ БАЗАН» 1–с.
21.15 Вечарніца
21.30 «ВОСКРЕШЕНИЕ» Боевик
23.15 Реактивная десятка
0.15 Новости «К-видео»

## НЯДЗЕЛЯ, 14 лістапада. Пр. Фядоссі, Ульяны, Дзям'яна, Івана, Кузьмы, Якава. Кат. Андрэя, Ваўжынца, Эміля, Юзафа.

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 «Приключение в королевстве»
8.25 «Мы - журналисты»
8.45 Потребительская корзина
9.00 Новости
9.10 «Все дело в шляпе»
9.35 «Я рисую»
9.50 Туробъектив
10.15 «Все нормально, мама!»
10.50 Белорусский дом
11.20 Арсенал
11.45 Спортивные новости
12.05 Сделано в Беларуси
12.20 «Осенняя наша печаль»
12.30 Новые имена
12.35 «ДЕВОЧКА ИЩЕТ ОТЦА»
14.05 Сельчане
14.30 Золотые ключи
15.00 Новости
15.10 «На волне взаимопонимания»
15.55 «Избранное»
16.20 «Суперобраз XXI века»
16.50 «Зорная ростань»
17.25 «ВЛЮБЛЕННЫЕ»
18.50 Новые имена
18.55 Теленавигатор
19.15 Стадион
19.40 Колыбельная
20.00 Резонанс
20.50 Ток-шоу «Карамболь»
21.20 «Золотой шлягер - Могилев-99»
23.50 Премьера песни
0.00 Авто-парк

### ОРТ

7.00 «Новости»
7.10 «Армейский магазин»
7.40 «Дисней-клуб»: «Утиные истории»
8.10 «Утренняя звезда»
9.00 «Новости»
9.10 «Непутевые заметки»
9.30 «Пока все дома»
10.05 «АЛЬФ» Сериал
10.35 «Здоровье»
11.05 «ЕДИНОЖДЫ СОЛГАВ» Психологическая драма
13.05 «Клуб путешественников»
13.45 «История одного шедевра»
14.00 Новости
14.10 «ГОРЕЦ - IV». «НАЗОЙЛИВЫЙ ПРИЗРАК»
15.00 «Умницы и умники»
15.25 «Дисней-клуб»: «Чип и Дейл»
15.50 «Дисней-клуб»: «Аладдин»
16.20 «Как это было»
17.00 Новости
17.10 «Смехопанорама»
17.45 «Женские истории»
18.20 «ЧЕРНЫЙ ПЕС» Боевик. Режиссер - К.Хукс. В ролях: П.Суэйзи, С.Тоболовский, Р.Тревис. США, 1998 г.
20.00 Программа С. Доренко
20.55 Погода
21.00 «Эх, Семеновна!»
21.40 «ТЫСЯЧЕЛЕТИЕ» «КРОВНЫЕ УЗЫ» Сериал
22.35 «Футбольное обозрение»
23.05 «КОЛОСС РОДОССКИЙ» Исторический фильм о заговоре против царя Ксеркса в день торжественного открытия легендарной статуи Колосса Родосского

### РТР

7.00 «Служу Отечеству»
7.25 Мультфильмы
8.20 «Устами младенца»
8.55 «Доброе утро, страна!»
9.30 «Аншлаг» и Ко»
10.30 «Городок»
11.00 «Русское лото»
11.40 «Мир книг с Л. Куравлевым»
12.00 «Вести»
12.20 «Парламентский час»
13.10 «ЗАКОН И ПОРЯДОК» Сериал
14.05 «Диалоги о животных»
15.00 «Старая квартира»
16.00 «Этюды о любви»
17.00 «Перед «Зеркалом»
17.15 «ТЫ - МНЕ, Я - ТЕБЕ» Комедия
19.00 «Зеркало»
20.00 «СПОРТЛОТО-82» Комедия о сумасшедших поисках выигрышного билета «Спортлото» Режиссер - А.Гайдай. В ролях: А.Арлаускас, С.Аманова, М.Пуговкин, М.Кокшенов, Н.Гребешкова, Б.Брондуков. СССР, 1982 г.
21.45 «ДРУЗЬЯ» 1-я с. 24-серийного комедийного сериала. Самая популярная комедия сезона 1994-95 годов. Шумная и веселая жизнь шестерых молодых людей, живущих в Нью-Йорке. Режиссеры - Д.Крейн, М.Коуфман. В ролях: Дж.Анистон, К.Когес, Л.Кардоу, М.Ле Бланш, М.Перри, Д.Швилемер. США, 1994 г.
22.15 Концерт группы «Чай Вдвоем»
23.20 «К-2» представляет»
0.15 «Дежурная часть»

### НТВ

7.00 «Сегодня»
7.15 «ЕЕ ЗВАЛИ НИКИТА» Сериал
8.00 «ЗЕРКАЛО, ЗЕРКАЛО»
8.30 «Битлджус»
9.00 «Сегодня»
9.15 «Служба спасения»
9.45 «Пойми меня»
10.15 «Женский взгляд»
10.45 «Профессия - репортер»
11.00 «Сегодня»
11.25 «Профессия - репортер»
11.40 «Полундра»
12.10 «Ключи от форта Байяр»
12.40 «ПРОВЕРКА НА ДОРОГАХ» Фильм Алексея Германа, долгое время пролежавший на полке и ставший откровением
14.30 «Русские горки»
15.00 «Сегодня»
15.25 «Большие родители»
15.55 «ОНА НАПИСАЛА УБИЙСТВО»
17.00 «Итоги»
17.35 «ОТРЯД «ДЕЛЬТА» Наш общий любимец Чак Норрис в боевике, рассказывающем о захвате американского самолета мусульманским террористом Абдулой Рафаем. Режиссер - М.Голан. В остальных ролях: Л.Марвин, М.Бэлсам, Дж.Бишоп, Х.Шигулла. США, 1986 г.
20.00 «Итоги»
21.30 «Куклы»
21.45 «Третий тайм»
22.35 «ЗАКОН ЛЮБВИ» Историческая мелодрама. 1388 год. К южным границам Сербии подступают полчища турецкого султана. Их предводитель Алия, истребив людей сербского витязя Страхиня, уводит в плен его молодую жену. Страхинь клянется отомстить коварным захватчикам. Режиссер - В.Мимица. В ролях: Ф.Неро, Д.Николич, С.Вейнович. Югославия - ФРГ.

### ТВ-6

7.05 «Дорожный патруль»
7.20 Мультфильмы
7.35 «СВ шоу»
8.25 «33 КВАДРАТНЫХ МЕТРА. ДАЧНЫЕ ИСТОРИИ» Сериал
8.55 «Те Кто»
9.10 «Как стать звездой?» «
9.40 «ЛЕ-GO-GO»
10.30 «Канон» Религиозная программа
11.00 «Шесть новостей недели»
11.30 «Star Старт»
12.00 «Дорожный патруль»
12.15 Телемагазин в Минске
12.25 «Путешествия с «Ланта-Тур»
12.35 «АЙБОЛИТ-66» Веселая музыкальная фантазия на тему знаменитой сказки К.Чуковского о добром докторе, который отправился в Африку лечить заболевших обезьян. Режиссер - Р.Быков. В ролях: Р.Быков, Ф.Мкртчян, О.Ефремов. СССР, 1966 г.
14.20 Мультфильмы
14.40 «Спартак»- чемпион!»
15.15 «Народ представляет» «Знак качества»
15.50 «Без вопросов...»
16.25 «Катастрофы недели»
17.30 «Дорожный патруль»
17.50 «БИС»
18.20 «Вы - очевидец»
18.55 «Обозреватель»
19.55 «В ПОСТЕЛИ С НЕЗНАКОМЦЕМ» Комедия. Эксцентричный рок-певец поселился в очаровательной курортной гостинице, и жизнь ее постояльцев неожиданно превратилась в настоящий балаган... Режиссер - У.Болсон. В ролях: А.Шелли, К.Хафман, Н.Данкан. США, 1996 г.
22.00 «Ваша музыка»
23.05 «Новости спорта»
23.20 «ИЗНУРЕННАЯ» Криминальная драма. Изнасилованная женщина, пытаясь облегчить душевную боль, обращается в суд. Начинается долгое судебное разбирательство. Лишь одно обстоятельство смущает присяжных: в судебном законодательстве США нет статьи за изнасилование, совершенное женщинами... Режиссер - К.Крут. В ролях: А.Томсон, К.Гуджино, Р.Кайлстедт, К.Макдоналдс. США, 1997 г.

### Культура

9.05 «Читая Библию»
9.15 «Консилиум»
9.40 «ВНИМАНИЕ, ЧЕРЕПАХА» Комедия. Ответственный за живой уголок первоклассник Вова попал в больницу и тем самым положил начало диким экспериментам одноклассников над трудноуязвимой черепахой. Режиссер - Р.Быков. В ролях: Алеша Ершов, Андрей Самотолкин, Миша Мартиросян. СССР, 1970 г.
11.05 «Экспедиция «ЧИЖ»
11.30 Мультфильмы
11.50 «Аистенок»
12.15 «XX век. Избранное»
13.00 «Времена и воины»
13.30 Новости культуры
13.45 «ЗАМОК ОЛИВ» Сериал
14.40 «Кинопанорама. Встречи»
15.05 «Телесуфлер»
15.25 Мультфильмы
15.50 «Изменницы»
17.00 «Романс... с Любовью Казарновской»
17.30 Новости
17.35 «Дорога к Пушкину»
17.55 «С Днем рождения, ВГИК»
18.20 «ТЕЛЕФОН»
18.25 «С потолка»
18.50 «Смерть и жизнь художника Федотова» Д/ф
19.10 «Чудо-сказка»
19.25 «Шедевры мирового музыкального театра»
21.00 Новости культуры
21.20 «Старые песни от джаза»
22.05 «КРЕЙЦЕРОВА СОНАТА» 2-я с.

### ТВ-ЦЕНТР

7.00 Детский телеканал
8.15 «Первосвятитель»
8.30 «СПАСАТЕЛЬ МАКГАЙВЕР» Сериал (США)
9.30 «Слово и дело»
10.00 «События»
10.15 «С утра попозже»
10.45 «ЦТ возвращается...»
12.00 «Грани»
12.25 Погода на неделю
12.30 Теннис. Кубок Кремля. Мужчины.
(В перерыве - 13.00 - «События»)
15.30 Мультфильмы
16.25 «Особая папка»
16.55 «Воскресный концерт»
18.05 "ДНЕВНОЙ КОШМАР», «ДЬЯВОЛЬСКИЕ ТАНЦЫ» Фильмы из сериала «НЕПРИДУМАННЫЕ ИСТОРИИ» (Австралия, 1996 г.)
19.00 «События»
19.30 «Секретные материалы»
20.00 «АГОНИЯ» Историческая драма о событиях в России 1916 года. В обстановке агонизирующей власти авантюрист Распутин вершит государственные дела, пользуясь своим влиянием на царя и его приближенных. Режиссер - Э.Климов. В ролях: А.Петренко, А.Ромашин, А.Фрейндлих, Л.Броневой, Ю.Катин-Ярцев, В.Лин. СССР, 1974-1981 гг.
22.40 «Спортивный экспресс»
23.15 «События одной строкой»
23.20 «ПРАКТИКА»
0.10 «Большая музыка»

### ТНТ

9.00 «Пират-атака»
9.30 «Планета монстров»
10.00 «ТАЙНЫЙ МИР АЛЕКС МАК» Сериал
10.30 «Суперхоккей. Неделя НХЛ»
11.00 «Мировой футбол»
11.30 «Тайны Ксапатана»
13.00 «Мир дикой природы»
14.30 «Открытые небеса» Д/ф
14.30 «Сонник»
14.35 «СЕНЬОРА» Сериал
15.30 «ЧЕРНАЯ БУХТА» Сериал
16.30 «НА КРАЮ ВСЕЛЕННОЙ» Сериал
17.30 «Кино, кино, кино»
17.55, 21.40 «Глобальные новости»
18.00 «Я ЛЮБЛЮ ЛЮСИ» Сериал
18.30 «ПАПОЧКА-МАЙОР» Сериал
19.00 «ТАКАЯ РАЗНАЯ ТРЕЙСИ» Сериал
19.30 «Встреча с...» Род Стюарт
20.30 Русский боевик. «НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ МЕНТОВ» «ИЩУ РАБОТУ С РИСКОМ» Сериал
21.45 «Однажды вечером»
22.55 «Стриж и другие...»
23.30 «Титаны рестлинга на ТНТ»
0.30 «Я ЛЮБЛЮ ЛЮСИ» Сериал

### ЕВРОСПОРТ

9.30, 22.00 Футбол. Отборочный турнир ЕВРО 2000
11.00 Санный спорт
12.00 Мотогонки. Чемпионат мира
13.00 Санный спорт
14.00, 16.00 Теннис
19.00 Мотогонки «Суперкросс»
20.30 Теннис. Турнир WTA в Филадельфии
0.00 Новости Спортцентр
0.15 Мотогонки «Суперкросс»
1.30 Бокс. Международный турнир

### 8 канал

13.00 Телемагазин
13.15 «УБИЙСТВО В ТРЕХ АКТАХ»
15.00 Программа Рика Реннера
15.30 Вас поздравляют!
17.30 «ДЬЯВОЛ В ГОЛУБОМ ПЛАТЬЕ»
19.05 Музыкальная программа
20.15 «ДОН СЕЗАР ДЕ БАЗАН» 2-я с.
21.15 Вечарніца
21.30 Спорт-action
22.00 «СЛУЧАЙНАЯ ВСТРЕЧА» Триллер
23.40 Поздно вечером с Алексеем Шедько

### АСТ

5.00, 17.45 «Спорт на планете»
5.30, 17.30, 20.30, 23.30, 2.30 «Факт»
5.45, 13.20 Мультфильмы
6.20 «ФАВОРИТ» Детектив 2-я с.
7.30 «Джаз и не только»
8.00 «Аистенок»
8.45 Мультфильм
10.00 «Семь нот и весь мир»
11.00 «Страна Фестивалия»
11.30, 03.00 «Гербы России»
11.45 «Комедия ошибок» 2-я с.
12.50, 2.00 «Хвалите имя Господне»
13.30, 23.00 «Благовест»
14.00 «Темная для...»
14.25 «МОТЕЛЬ»
16.05, 23.45 «Мировой кинематограф»
17.00 «Россия далекая и близкая»
18.15 «НОЧНЫЕ ЗАБАВЫ» 2-я с.
19.20 «Воспоминания»
19.30 «Русская партия»
20.00 «Суперварьете»
20.45, 2.45 «Постфактум»
21.00 «Тайны и мифы XX века»
21.25 «СЛУЧАЙ ИЗ СЛЕДСТВЕННОЙ ПРАКТИКИ»
0.40 «Чеховские страницы» 2-я с.
1.50 «Воспоминания»
3.15 «МЫ, НИЖЕПОДПИСАВШИЕСЯ» 2-я с.
4.30 «Классика. Избранное»

 



*Вышэйшая ліга*

## Дзе вы, футбалісты?

**Белшына (Бабруйск) – Маладзечна 3:0 (1:0)**

30.10, 2000 гледачоў, галоўны арбітр Канстанцін Дайлід (Брэст).

**Галы:** Путраш (23, 46), Улезла (90).

11 Пілецкі — 10 Лабецкі
4 Ваўчок
7 Дзіковіч — 8 Д. Кабельскі
9 Дараховіч
3 Бычкоўскі
5 Парываеў — 6 Вольскі
2 Рагуновіч
1 Васілеўскі

Дауно такога не здаралася. На апошні матч сезона ў Бабруйск сабралася толькі 11 футбалістаў. З-за "картачнай" дыскваліфікацыі не маглі гуляць **Сяргей Кабельскі**, **Віталь Макрыцкі** і **Павел Яўсеенка**. Першыя два, праўда, ездзілі для маральнай падтрымкі. Некаторыя ж мінскія хлопцы проста дазволілі сабе не з'яўляцца ў каманду. Які сэнс катацца па рэспубліцы, калі грошы не плацяць са жніўня?

Гульня праходзіла па звычайным сцэнарыі. Саперікі, што называецца, "вазілі" маладзечанцаў і забівалі галы. Кадравыя праблемы прымусілі **Уладзіміра Галубко** паказаць нетрывіяльнасць трэнерскай думкі. Ён паставіў на фланг паўабароны **Дзмітрыя Кабельскага**, а ў цэнтр **Дзмітрыя Ваўчка**.

Вось такія абставіны спадарожнічалі закрыццю сезона.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Міні-футбол*

## Склад узмацняецца

**Металург – Верас (Нясвіж) 3:4 (0:2)**

**Галы**: Янель (22, 31), Мацюк (35); (6), (12), (30), (34).

**Склад**: Бахур; Янель (кап.), Мацюк, Гружэўскі, Сіткевіч; Ваўчок, Макей, Кабельскі, Андросік; Казлоўскі, Клімовіч, Мялюк.

Дзеянні каманд у першым тайме адрозніваліся па іх баявым настроі. Нясвіжцы больш жадалі выйграваць і забілі два галы. Пасля перапынку маладзечанцы актывізавалі гульню ў нападзенні, каманду павёў за сабой **Дзмітрый Янель**. Прыгожым было яго другое ўзяцце варот: абыграў некалькіх сапернікаў і дакладна прабіў левай нагой у далёкі кут. Пры ліку 1:2 пачаўся хуткі абмен галамі: чатыры ўзяцці варот за шэсць хвілін. На жаль, мінімальны адрыў у ліку так і захаваўся.

З'явіўся навічок **Андрэй Казлоўскі**. Ён раней гуляў у **Сяргея Сафонава** ў футзальным "Атланце", а гэты сезон вялікага футбола правёў за наваполацкі "Нафтан-Дэвон". Яшчэ адна цікавая навіна: хутчэй за ўсё, з наступнага тура за "Металург" пачне гуляць **Віталь Казяк**.

Педуніверсітэт – Энергетык 1:3, Белаўтасервіс – Дарожнік 2:5, БАТУ – Сімург 1:8, МЭСР – МАПІД 3:3, РТІ-Заслаўе – ЦКК 5:9, Беліндзяржстрах-БДПА – Эканаміст 7:1, Энергетык – МЭСР 5:5.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Мясцовы футбол*

## "Залатая восень" вачыма гульцоў

ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

| КАМАНДА | Г | М | А |
|---|---|---|---|
| «ЗЛМК» | 15 | 49–7 | 43 |
| «Сябрына» (зб. ветэранаў) | 15 | 43–23 | 38 |
| «Аўтамабіліст» | 15 | 35–14 | 37 |
| «Колас» | 15 | 30–24 | 27 |
| «Энергетык» | 15 | 28–24 | 27 |
| «Пуцеец» | 15 | 36–24 | 26 |
| «Гандальцэнтр» (Маладзечанскі кірмаш) | 15 | 32–18 | 24 |
| «Унікаб» | 15 | 38–37 | 21 |
| «Будаўнік» | 15 | 20–31 | 17 |
| «Лакаматыў» | 15 | 24–29 | 16 |
| «ЗПМ» | 15 | 24–30 | 16 |
| «Камунальнік» | 15 | 21–21 | 15 |
| «Змена–84» | 15 | 15–31 | 12 |
| «Дынама» | 15 | 27–39 | 12 |
| «АВПС» | 15 | 17–37 | 10 |
| «Юнацтва–85» | 15 | 7–38 | 3 |

Якія плюсы і мінусы турніру заўважылі гульцы каманд–удзельніц?

**Сяргей Гардынец** ("Унікаб"):

– Добры турнір, на якім збіраюцца мацнейшыя каманды горада. Дрэнна тое, што графік сустрэч складаўся па жаданні каманд, а не наперад.

**Уладзімір Галубко** (зб. ветэранаў "Сябрына"):

– "Плюс" – удзельнічала вялікая колькасць каманд, недахоп – каляндар гульняў складаўся па ходзе турніру, таму калі–нікалі ўзнікалі непаразуменні: запланаваныя матчы адмяняліся і гуляліся іншыя. Судзейства было некваліфікаванае, бо часам судзілі далёкія ад футбола людзі.

**Андрэй Шыла** ("Унікаб"):

– "Плюс" – "ЗЛМК" свае сустрэчы праводзіў не ў "каробцы", а на гарадскім стадыёне. Каб усім камандам далі гуляць у такіх умовах... "Мінусы" – некваліфікаванае судзейства (якое падладжвалася пад "ЗЛМК") і безадказнасць гульцоў.

Здаралася, што адна з камандаў гуляла ў складзе трох чалавек. І ніякіх перагульванняў ці тэхнічных паражэнняў не прызначалася.

**Яўген Цярэшчанка** ("Аўтамабіліст"):

– Добра тое, што каманда "Аўтамабіліст" стала трэцяй. "Мінусы"? Было б цудоўна, каб была нейкая матэрыяльная за–цікаўленасць у гульцоў.

**Анатоль Ішчанка** (галоўны суддзя турніру):

– Заўваг па арганізацыі няма, да судзейства таксама няма пытанняў. "Мінусаў" я не бачу. Усё прайшло на добрым узроўні.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Нашы інтэрв'ю*

## У маладзечанскім футболе мода на "міні"

МАЛАДЗЕЧНА. Вялікі футбол у горадзе "захварэў". Але мясцовым балельшчыкам каманда патрэбная. Моцная, з устойлівай структурай, за якую не было б сорамна. Створаны нядаўна "Металург" абяцае стаць такой камандай. Міні–футбол прыходзіць на змену вялікаму. На пытанні "РГ" адказвае старшы трэнер "Металурга" **Канстанцін Харламаў**.

**– У вялікім футболе што ні закрані – упіраецца ў грошы. Колькі каштуе ўзяць удзел у вышэйшай лізе па міні– з улікам стартавага ўзносу, раз'ездаў, арэнды залы?**

– Гэта дарага, але ў разы чатыры менш, чым страты ФК "Маладзечна" у вялікім футболе.

**– Дарэчы, залу вам ужо даюць.**

– Так. На наступным тыдні мы плануем правесці першую трэніроўку ў новай зале ЗЛМК. 13 лістапада, хутчэй за ўсё, мы правядзем там свой дамашні матч з камандай радыётэхнічнага інстытута.

**– Чым адрозніваецца работа трэнера ў вялікім футболе і ў міні–?**

– База аднолькавая, але іншая спецыфіка. У вялікім футболе мысленне больш абстрактнае і лагічнае, а ў "маленькім" – аператыўнае. Футбаліст з належнай фізічнай падрыхтоўкай можа гуляць і там, і там. Колькі год таму ў першай міні–футбольнай лізе выступаў "Тарфянік" з Беразінскага, і ў яго складзе тады гулялі браты Макоўскія, Андрэй Мілеўскі і Дзмітрый Янель. Гэтая чацвёрка выглядала прыстойна, многія каманды па міні– жадалі іх бачыць у сваіх шэрагах. Але тады "маленькі" футбол не атрымліваў грашовых інвестыцый, і хлопцы перайшлі ў футбол вялікі.

**– Хто трэніраваў "Тарфянік", і якімі былі вынікі яго выступленняў?**

– Пад кіраўніцтвам Леаніда Лявончыка каманда знаходзілася ў сярэдзіне турнірнай табліцы.

**– Вас не палохае тое, што з'яўленне міні–футбольнага "Металурга" прывядзе да паніжэння ўзроўню асноўнага "Металурга", які выступае ў чэмпіянаце Мінскай вобласці?**

– Такога не атрымаецца. Мы не па–дзяляем гэтыя дзве каманды. Міні–"Металург" і "Металург" у вялікім футболе – гэта адзіны футбольны клуб з адзінай структурай. Футбалісты, якія не знойдуць сябе ў "маленькім футболе, змогуць гуляць за беразінскі "Металург" у чэмпіянаце вобласці. Лепшыя гульцы з аматарскай апынуцца ў галоўнай камандзе – "Маладзечна". Таксама мы будзем звяртаць увагу на перспектыўных хлопцаў футбольнай школы Беразінскага і маладзечанскай ДЮСШ. Такім чынам, атрымаецца адзіны ланцужок падрыхтоўкі гульцоў.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Абласны футбол*

## Тры фіналы за сезон

СМАРГОНЬ. Як і планавалася, СКЗ-ДЮСШ №1 праводзіла 31 кастрычніка фінальны матч чэмпіянату Гродзенскай вобласці. На галоўным стадыёне абласнога цэнтра, дзе гуляе свае матчы "Нёман-Белкард", нашым землякам супрацьстаялі футбалісты шчучынскага "Аўтаправада".

На думку **Сяргея Новіка**, матч праходзіў з перавагай яго падапечных, аднак... прапусцілі два хуткіх гола. У сярэдзіне першага тайма **Сяргей Карабінскі** з паса цёзкі-**Жабінскага** скараціў розніцу ў ліку, але напачатку другой паловы сустрэчы сапернікі яшчэ раз забілі. Хвілін за дваццаць да заканчэння гульні **Валерый Шашоў** устанавіў канчатковы вынік – паражэнне 2:3.

Смаргонская каманда ў сезоне выйграла Кубак вобласці, была фіналістам Кубка рэспублікі сярод вытворчых калектываў і вось цяпер дабілася агульнага другога месца ў абласным чэмпіянаце. У калектыве ёсць як 40–гадовыя ветэраны, так і маладыя хлопцы, з якімі трэнеры звязваюць будучае ФК "Смаргоні", што выступае ў другой лізе рэспубліканскага чэмпіянату.

Вось хто сёлета выходзіў у складзе "абласной" каманды: варатары **Яўген Шыдук** і **Аляксандр Лобан**, палявыя **Алег Новікаў**, **Яўген Шоць**, **Яўген Новік**, **Андрэй Шаблінскі**, **Дзмітрый** і **Вадзім Максіменкі**, **Валерый Шашоў**, **Уладзімір Варатнікоў**, **Уладзімір Беніцэвіч**, **Сяргей Жабінскі**, **Уладзімір Гарлуковіч**, **Аляксандр Мазанік**, **Рыгор Гакуць**, **Дзмітрый Буката**, **Леанід Станкевіч**, **Пётр Кузьмянок** і іншыя. Дзеля справядлівасці адзначу, што ў некаторых адказных паядынках каманду ўзмацнялі гульцы "старэйшага" брата.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

**АНОНС**

**06.11 МАПІД (Мінск) – Металург**

Нашы землякі на шостым месцы з сямю ачкамі, а сапернік мае на ачко больш і займае пяты радок у табліцы. У 15.10 па БТ пачнецца прамая трансляцыя другога тайма сустрэчы.

*Таталізатар*

## Перамагаць у заключным выпрабаванні – справа для сталых людзей

У апошнім пятнаццатым раундзе мы атрымалі 11 купонаў. Тройчы адгаданы лік матча ў Салігорску і двойчы ў Бабруйску. **Мікалаю Кіндру** са Смаргоні ўдалося адгадаць гэтыя зыходы разам. Яго і называем маральным пераможцам.

Выказваем вялікі дзякуй усім, хто браў удзел у сёлетнім сезоне "Таталізатара". Нагадаем імёны пераможцаў. **Уладзімір Лазучонак** (Маладзечна) – 6 разоў; **Алег Гаруновіч** (Маладзечна), **Андрэй Радлінскі** (Вытрапаўшчына) – па 2; **Яўген Калашнікаў** (Чысць), **Мікалай Хадасевіч** (Беразінскае), **Валерый Грабоўскі** і **Сяргей Ярук** (абодва з Маладзечна), **Мікалай Кіндра** (Смаргонь) – па 1.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Наш аналіз*

# Хутчэй выпраўляцца. Памылак смешных не дапускаць

***ФК "Маладзечна" пакінуў вышэйшую лігу: на сённяшні дзень усё цалкам справядліва. Аднак я ўпэўнены, што горад дастойны мець каманду сярод мацнейшых.***

Маладзечанцы любяць футбол, ім патрэбнае гэтае відовішча. Колькі год таму 6–тысячныя трыбуны не змяшчалі жадаючых паглядзець той ці іншы матч. Нават сёлета, калі каманда ні разу дома не выйграла, практычна заўсёды на трыбунах былі тысячы з дзве балельшчыкаў (не кажу, натуральна, пра апошнія гульні, калі "ўсё было зразумела").

Гарадскі стадыён у сваім найлепшым выглядзе (не цяперашнім запушчаным) – адзін з лепшых на Беларусі. У Маладзечне ёсць свая футбольная школа, добрыя дзіцячыя трэнеры, якія могуць вырасціць перспектыўных гульцоў.

За апошняе дзесяцігоддзе менавіта ў Маладзечне з'явіліся лепшы футбаліст краіны 1996 года **Уладзімір Макоўскі**, які ўваходзіць у пяцёрку самых стабільных гульцоў нацыянальнай зборнай, кандыдаты ў яе **Аляксандр Вяжэвіч** і **Міхаіл Макоўскі**. Моцнымі, па беларускіх мерках, выглядаюць **Мікалай Абрамовіч**, **Віталь Казяк**, **Дзмітрый Янель**. Яшчэ не здолелі цалкам раскрыцца **Андрэй Мілеўскі**, **Дзмітрый Ваўчок**, **Дзмітрый Капленка**. Усе поспехі наперадзе ва **Уладзіміра Карыцькі**, **Сяргея Дараховіча**, **Віталя Макрыцкага**, **Аляксандра Чарнеля**. Прыжыліся, пусцілі карані тут **Аляксандр Лебедзеў**, **Руслан Лукін**, **Сяргей Кабельскі**. І справа ж не ў тым, каб сабраць усіх разам у адну каманду. Гаворка пра тое, што па сваім патэнцыяле Маладзечна абавязкова павінна мець каманду вышэйшай лігі.

Апошнім часам людзі, ў той ці іншай ступені адказныя за справы футбольныя, не здолелі ўтрымаць на плаву, захаваць для гараджан тое, чаго дабіліся іх папярэднікі ці нават яны самі, але ў іншых эканамічных умовах. Гэта не столькі іх віна, колькі бяда ўсяго нашага футбола. Новых кіраўнікоў не хутка знойдзеш, іншыя матэрыяльныя рэаліі наступяць яшчэ пазней (пытанне яшчэ – горшыя ці лепшыя?). Пакуль жа маем тое, што маем.

Мінулы сезон паспрабуем прааналізаваць, звернем увагу на памылкі, што ляжаць на паверхні, якія нельга было дапускаць, а паўтараць будзе проста "злачынна".

Па заканчэнні мінулагодняга чэмпіянату каманду пакінуў галоўны трэнер **Леанід Кучук** – чалавек, намаганнямі якога ўдалося захаваць месца сярод мацнейшых. Было, па крайняй меры, дзве прычыны. Па-першае, за яго спінаю вяліся перамовы з іншымі спецыялістамі. Па-другое, ніхто яму канкрэтнай перспектывы тут не паабяцаў.

Сёлета на першы збор каманда сабралася толькі напрыканцы студзеня. З-за навагодніх святаў усё адкладвалася праўдзенне сустрэчы ў гарвыканкоме па арганізацыі фінансавання перадсезоннай падрыхтоўкі. Урэшце, вырашылі, што завод лёгкіх металаканструкцый будзе вызвалены ад пэўных падаткаў, але ў іх будучы залік, бо на той момант не быў прыняты бюджэт краіны. Дзіўная сітуацыя, калі лёс футбольнага клуба залежыць ад дэпутатаў.

Неўзабаве галоўным трэнерам прызначаны малавядомы дзіцячы спецыяліст **Міхаіл Шутовіч**, які сам напрасіўся папрацаваць у "Маладзечне". Уход у пошуках лепшай долі многіх футбалістаў быў зразумелы, аднак некаторых з іх (успомнім, прынамсі, лідэра абарончых парадкаў, былога капітана **Аляксандра Клімовіча**) нават і не запрасілі працягнуць выступленне за каманду. Пакінуў родны горад, не правёў тут ні аднаго поўнага сезона перспектыўны **Уладзімір Карыцька**, паглядзець на гульню якога, магчыма, хадзілі б, як некалі на Макоўскіх.

Смешныя моманты: на "снежным" турніры ў Мастах лепшым бамбардзірам каманды стаў 38-гадовы трэнер **Уладзімір Галубко**, на прадстаўнічы "земляны" турнір у Пінск не паехалі, за тыдзень да старту чэмпіяната падаў у адстаўку галоўны трэнер, на месца якога прыйшоў таксама дзіцячы спецыяліст **Барыс Лазарчык**.

Пасля васьмі тураў каманда ішла на трынаццатым месцы. Былі здабытыя цяжкія нічые, была перамога. У матэрыяльным плане гэтыя поспехі гульцам нічога не прынеслі, таму і распачаўся першы сёлетні буйны гульнявы крызіс, апафеозам якога сталі паражэнні 0:5 і 0:7.

Зноў смешныя моманты: хлопцы, што заключылі кантракты з клубам, адпраўляюцца ў складзе каманды сваёй былой школы на паказальны турнір; галоўны трэнер давярае пазіцыю апошняга абаронцы ў той самай гульні "нуль-пяць" **Валерыю Паўлаўцу**, які, па яго ж (трэнера) словах, у адным з папярэдніх матчаў дзейнічаў ледзь не са 100–працэнтным бракам.

Толькі аднойчы сёлета з балельшчыкаў не бралі платы за ўваход (тады прайгралі навапалачанам 1:3), футбалісты ў тым матчы за пятнаццаць стартавых хвілін "запаролі" пяць контратак і, наогул, не надта жадалі забіваць. Можна сказаць, зрабілі так, каб у балельшчыкаў заставалася ўражанне, што матч быў ці то прададзены, ці то абменены на нешта.

Закаталі рукавы, пачалі выпраўляць становішча. Запрасілі дасведчанага галоўнага трэнера **Уладзіміра Касакоўскага**, новых гульцоў. Ізноў былі цяжкія нічые і перамога, а калі ўсё ж страцілі большасць шанцаў на выратаванне, дык трэнера адправілі ў адстаўку, маўляў, такі добры спецыяліст цяпер ужо непатрэбны, а тых самых гульцоў проста адлічылі. Каманду ж, натуральна, напаткаў другі буйны гульнявы крызіс.

Цяпер прыйдзецца пісаць гісторыю маладзечанскага футбола з чыстага ліста першай лігі.

Матчы: С. Кабельскі, Рагуновіч – па 27; Васілеўскі – 25; Яўсеенка – 24; Вайтовіч, Д. Кабельскі – па 22; Дзербан – 21; Дзіковіч – 20; Паўлавец – 16; Шамшорык – 15; Вольскі, Дараховіч, Жукоўскі – па 14; Зрыбненка, Лабецкі – па 13; Ваўчок, Макрыцкі, Федаровіч – па 11; Даніленка – 10; Бычкоўскі, Мархель, Мурашка – па 9; Молаш, Парываеў – па 8; Новаш, Плют – па 7; Пясецкі – 6; Пілецкі – 5; Рыжэўскі – 3; Каторгін, Лебедзеў, Цыбулька – па 2; Сядун – 1.

Галы: Шамшорык – 4; С. Кабельскі, Яўсеенка – па 3; Дзіковіч, Макрыцкі, Мархель – па 2; Вайтовіч, Вольскі, Жукоўскі, Паўлавец, Плют – па 1. Васілеўскі – (-57); Пясецкі – (-14).

Перадачы: С. Кабельскі – 6; Вольскі, Даніленка, Яўсеенка – па 2 (...).

Парушэнні. 5 выдаленняў, 49 папярэджванняў (дрэннае 14 месца). Вайтовіч – 2 ч. + 7 ж. (самы недысцыплінаваны ў чэмпіянаце); Д. Кабельскі – 1 ч. + 8 ж.; Молаш – 1 ч. + 1 ж.; Васілеўскі – 1 ч.; С. Кабельскі, Дзіковіч – па 5 ж.; Яўсеенка – 4 ж. (...).

Сярэдняя наведваемасць. На ўсіх матчах – 2637 чалавек (чатырнаццаты паказчык па лізе). Дамашняя – 1607 (найгоршы паказчык за дзевяць чэмпіянатаў).

Дома набралі 3 ачкі (16 вынік), на выездзе – 8 (14 вынік). У першым крузе – 5 (16 вынік), у другім – 6 (15 вынік).

Лакаматыў-96 – Нёман-Белкард 1:1, Шахцёр – Днепр-Трансмаш 1:0, БАТЭ – Дынама (Мн) 2:0, Славія – Тарпеда-МАЗ 2:0, Дынама (Бр) – Нафтан-Дэвон 3:2, Тарпеда-Кадзіна – Свіслач-Дах 3:0, Ліда – Гомель 1:4.

| Каманды | "Маладзечна" | в | н | п | мячы | ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 0:3 1:2 | 24 | 5 | 1 | 80-22 | 77 |
| 2. Славія | 2:5 0:1 | 20 | 5 | 5 | 74-25 | 65 |
| 3. Гомель | 0:1 1:3 | 19 | 6 | 5 | 57-28 | 63 |
| 4. Днепр-Трансмаш | 1:1 1:1 | 17 | 9 | 4 | 53-27 | 60 |
| 5. Шахцёр | 0:1 1:3 | 18 | 5 | 7 | 58-30 | 59 |
| 6. Дынама (М) | 1:2 0:2 | 14 | 9 | 7 | 51-30 | 51 |
| 7. Дынама (Б) | 0:3 0:7 | 14 | 4 | 12 | 59-52 | 46 |
| 8. Белшына | 1:2 0:3 | 13 | 6 | 11 | 52-42 | 45 |
| 9. Нёман-Белкард | 1:1 0:0 | 10 | 7 | 13 | 36-43 | 37 |
| 10. Тарпеда-МАЗ | 2:2 1:2 | 10 | 5 | 15 | 31-47 | 35 |
| 11. Лакаматыў-96 | 1:4 2:1 | 9 | 7 | 14 | 40-45 | 34 |
| 12. Нафтан-Дэвон | 1:3 2:1 | 8 | 4 | 18 | 39-63 | 28 |
| 13. Ліда | 0:2 0:1 | 7 | 4 | 19 | 27-64 | 25 |
| 14. Тарпеда-Кадзіна | 0:5 1:4 | 6 | 5 | 19 | 30-69 | 23 |
| 15. Свіслач-Дах | 1:2 0:3 | 4 | 4 | 22 | 24-74 | 16 |
| 16. **Маладзечна** | ##### | **2** | **5** | **23** | **21-71** | **11** |

**Бамбардзіры:** Стрыпейкіс (Славія) – 22, Кутузаў (БАТЭ) – 19, Алешчанка (Лакаматыў-96) – 17.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*



 

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАМ

• ВАЗ–2101, 1977 г. в., капрамонт у 1997 г. Т. у Маладзечне 95044 (Радашковічы).
• А/м Форд-Сіера, 1984 г. в., бензін; секцыю МД-233. Т. у Вілейцы 58855.
• Вольва-740, 1986 г. в., прабег 162 т., 2200 у. а., стан выдатны. Т. у Маладзечне 52620.
• Ровер-універсал, 1992 г. в., 2.0Б, 2000 у. а. Т. у Маладзечне 79156.
• **ФОРД-СКОРПІЁ, 1986 Г. В., 2.0, ІНЖЭКТАР. Т. у Вілейцы 58983.**
• А/м ВАЗ-21061, 1.5 л, 1989 г. в., 76 тыс. км, 1600 у. а. Т. у Маладзечне 37920 (пасля $18^{00}$).
• Форд-Сіеру, 1989 г. в., 2.0і, Донс, КПП-аўтамат, хэчбэк, белы, АБС, па запчастках. Т. у Вілейцы 57118.
• МТЗ-80, 1987 г. в., п/прычэп камазаўскі, 1987 г. в. Т. у Вілейцы 53516.
• ГАЗ-66, дызель, або памяняю на трактар. Т. у Вілейцы 53603.
• Матацыкл Усход-3М. Т. у Вілейцы 53603.
• Опель-Аскону, 1.6, бензін, 1987 г. в., або памяняю на трактар. Т. у Вілейцы 53603.
• М/а Ніса, 400 у. а. Т. у Вілейцы 52470.
• **МЕРСЕДЭС-280, БЕНЗІН, 1980 Г. В., УСЕ НАВАРОТЫ. Т. у Маладзечне 53969, 50747.**
• А/м Масквіч-21412, 1994 г. в., колер дыпламат, дыскі, гума R14, б/у. Т. у Маладзечне 51241.
• Опель-Кадэт, караван, 1,6D, 1983 г. в. Т. у Маладзечне 35798.
• ВАЗ-2109, 1992 г. в., год з Германіі. Т. у Маладзечне 99696.
• **ОПЕЛЬ-КАДЭТ-КАРАВАН, 1986 г. в., ДЫЗЕЛЬ, ТАННА. Т. у Смаргоні 36754.**
• ВАЗ-2101 па з/ч. Т. у Маладзечне 50032.
• БМВ, 3-я мадэль, пераходная, 1984 г. в. Т. у Маладзечне 52953 (раб.).
• А/м ФВ-Пасат, 1.6, бензін, шэры металік, ц/з, нядорага; ФВ-Вента, 1.8, бензін, чырвоны, ц/з, электралюк, месяц з Германіі. Т. у Маладзечне 53974.
• А/м М-2140-люкс, 1985 г. в., цана па дамоўленасці. Т. у Вілейцы 52448 (пасля $18^{00}$).
• КамАЗ-53212, прычэп ГКБ-8350. Т. у Вілейцы 57245.
• А/м Масквіч-412, нядорага. Т. у Вілейцы 52568.
• ГАЗ-24, 500 у. а.; ЗАЗ-968 на з/ч. Т. у Вілейцы 57637.
• Аўтамабіль Нісан-Сані, 1987 г. в., дызель; Фольксваген-Гольф, 1986 г. в., дызель, велюр, электрапад'ёмнікі, г/у, цана дагаворная. Т. у Вілейцы 56218 (з $17^{00}$ да $21^{00}$), 53727.
• Форд-Скорпіё, 2.0, 1985-86 г. в. Т. у Вілейцы 59154.
• Аўтамабіль VW-Пасат, 1989 г. в., 1.8Б, белы. Т. у Маладзечне 75176.
• Опель-Кадэт, караван, 1989 г. в., дызель, 1300 $см^3$, белы. Т. у Астраўцы 20554.
• Мерседэс-190Е, 12.1984 г. в., у добрым стане, нядорага. Т. у Маладзечне 42864.
• А/м ЗАЗ. Т. у Маладзечне 37134.
• А/м Форд-Сіера, 1986 г. в., 2.3Д, 5-дзверны, ц/з, г/у, фаркоп, люк, у аварыйным стане. Т. у Маладзечне 34468.
• З/ч да а/м Фіят-Крома, 1989 г. в., 1.6, бензін. Т. у Маладзечне 21352.
• Опель-Кадэт, 1.6Д, 1983 г. в. Т. у Маладзечне 35798.
• Газель-фермер, газ-бензін, 1999 г. в., прабег 14 тыс. км, сігналізацыя. Т. у Маладзечне 68886.
• БМВ-324Д, 1987 г. в. Т. у Маладзечне 71219.
• **ТЭРМІНОВА AUDI-100 АВАНТ, 1984 г. в., З ДАКУМЕНТАМІ НА АДНАЎЛЕННЕ АБО НА З/Ч. Т. у Маладзечне 75584 (у любы час).**
• А/м Фіят-Крома, 2.0ТД, 1992 г. в. Т. у Маладзечне 90240, 99160.
• Дакументы, а/м ГАЗ-24 на запчасткі. Т. у Маладзечне 99186 (пасля $19^{00}$).
• VW-Гольф CL, 1984 г. в., 1600 $см^3$, бензін, 5КПП, цана дагаворная. Т. у Астраўцы 23336.
• А/м Вольва-740, 1985 г. в., газ-бензін, г/у, ц/з, добры стан, цана дагаворная. Т. у Смаргоні 53147.
• А/м Форд-Сіера, 1989 г. в., рухавік 1,6 $см^3$, седан, 5КПП, газ-бензін. Т. у Смаргоні 52691, 94186.
• А/м Форд-Эскорт, 1992 г. в., сігналізацыя, ц/з, 2000 у. а. Т. у Смаргоні 22146 (з $8^{00}$ да $17^{00}$).
• Мерседэс-Бенц-200Д, 1981 г. в., добры стан, 1000 у. а. Т. у Астраўцы 23383.
• А/м Ф-Сіера па з/ч, V6, аб. 2, 3, бензін, 1983 г. в.; ФВ-Пасат, 1,6, дызель, 1986 г. в. Т. у Маладзечне 52105.
• Масквіч-412ИЭ, 1981 г. в., капрамонт рухавіка ў 1999 г., пярэднія і заднія крылы. Т. у Маладзечне 61737.
• ГАЗ-24, 1984 г. в., нядорага. Т. у Маладзечне 31568, 95149.
• ЗАЗ на з/ч. Т. у Маладзечне 50946.
• А/м ФВ-Джэта-2, 1984-85 г. в., 5КПП, 1650 у. а.; пэйджэр Матарола. Т. у Маладзечне 65542.
• Форд-Эскорт, 1984-85 г. в., 1.3Б, 3-дзверны, люк, стан добры. Т. у Маладзечне 64078 (увечары).
• Аўтамабіль Фольксваген-Вербі, газ-бензін (А-76), запчасткі, гума. Т. у Мядзеле 54763.
• Кузаў УАЗ-469, кр. Т. у Вілейцы 55171.
• УАЗ-3303, бартавы. Т. у Вілейцы 52238.
• Хонду-Сівік, 1984 г. в., 1,5, карбюратар, выдатны стан; КТ Samsung; ВП Akai; мідзі-цэнтр музычны Aiva-2600. Т. у Вілейцы 55914.
• Мерс. 280SE, 1977 г. в., 650 у. а;.ГАЗ-66, 1983 г. в., 700 у. а. Т. у Вілейцы 54920.
• Форд-Скорпіё, 1986 г. в., 2.0і, АБС. Т. у Вілейцы 58983.
• МАЗ-500 з прычэпам, усё тэнт, 60 $м^3$, 3400 у. а., торг. Т. у Вілейцы 56501, 53378.
• ВАЗ-21011, 1979 г. в., у добрым стане, зроблены капрамонт. Т. у Маладзечне 76761.
• А/м Аўдзі-100, 1984 г. в., АКПП, 1600 у. а., торг. Т. у Маладзечне 69604.
• А/м Мазда-323, 1990 г. в., 1.7, дызель, караван. Т. у Маладзечне 66790.
• Аўтамабіль **ЛУАЗ**, 1981 г. в. Т. у Маладзечне 52658.
• Мерседэс-200D, 1982 г. в,.1390 у. а. Т. у Маладзечне 36667.
• Ахову арак колаў з брызгавікамі да ФВ-Транспарцёра Т-2. Т. у Маладзечне 60088 (увечары).
• Аўдзі-100, 1987 г. в., бензін, тэрмінова, нядорага. Т. у Маладзечне 36046.
• **ВАЗ-2105**, 1985 г. в., новы рухавік або памяняю на іншы а/м. Т. у Маладзечне 36149.
• Форд-Сіеру, 1990 г. в., 2.0і, CLX, месяц з Германіі, вішнёвы металік, 2100 у. а.; новую газавую пліту, 60х60, Брэст. Т. у Маладзечне 75976, 53910.
• ГАЗ-53, бензін, бартавы. Т. у Маладзечне 25671.
• **ПРЫЧЭП НЯМІГА ДА Л/А. Т. у Маладзечне 71116 (увечары).**

## КУПЛЮ

• Газавую ўстаноўку на л/а, новую. Т. у Маладзечне 61706.
• Кузаў WV-Гольф-1 або аўтамабіль цалкам; кухню б/у. Т. у Маладзечне 53519.
• Аварыйны аўтамабіль VW-Passat. Т. у Маладзечне 34425.
• Шыны грузавой і с/г тэхнікі. Т. у Вілейцы 53832.

## МЯНЯЮ

• ВАЗ-21061, 1981 г. в. на ГАЗ-2410, не старэй за 1984 г. в., у добрым стане. Т. у Вілейцы 52431.

## ПАСЛУГІ

• Вазьму спадарожнікаў у Польшчу за а/м. Т. у Маладзечне 62701.
• Дапамагу купіць аўтамабіль, Германія. Т. у Маладзечне 52409.

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАМ

• **ГАРАЖ у ГК № 24 (29 $м^2$).** Т. у Маладзечне 37781.
• Капітальны гараж у ГК №17 (Здземелева), Маладзечна. Т. у Смаргоні 36754.
• Участак на ст. Мясата, 6 сотак, вада, электраэнергія. Т. у Маладзечне 71184 (пасля $18^{00}$).
• 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, гараж у ГК №2. Т. у Вілейцы 58807.
• Дом у в. Снежкава, недабудаваны або памяняю. Т. у Вілейцы 53516.
• 3-пакаевую кватэру, цагляны дом, 120 кв. м, танна. Т. у Вілейцы 58648, 52580.
• 3-пакаевую кватэру з усімі выгодамі, новы жылы фонд, р-н вул. Незалежнасці. Т. у Вілейцы 53871.
• 3-пакаевую кватэру, 1 паверх. Т. у Вілейцы 57765.
• Дом у цэнтры Маладзечна або памяняю на аднапакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. у Вілейцы 55494.
• **ТЭРМІНОВА ПРАДАМ ДАЧУ. Т. у Маладзечне 63577.**
• 1-пакаёвую, 2-пакаёвую **КВАТЭРЫ**. Т. у Маладзечне 65106, 51461.
• Дом. Т. у Вілейцы 54532.
• Дом, 20 сотак; а/м М-412, 1980 г. в., аварыйны. Т. у Вілейцы 52918.
• Дом з усімі выгодамі. Т. у Вілейцы 56127.
• Катэдж без унутраных работ. Т. у Маладзечне 74908.
• Дом з усімі гаспабудовамі, сад, участак 20 сотак, на ст. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н. Т. у Маладзечне 75176.
• 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры; 48,2/26,7/8,6; у добрым стане; 12000 у. а. Т. у Маладзечне 65545.
• 2-пакаёвую кватэру. Т. у Вілейцы 55886.
• Гараж, г/к 4. Т. у Маладзечне 76677 (пасля $18^{00}$).
• Дом у вёсцы Корсакавічы, Мінскі накірунак. Т. у Маладзечне 34684.
• Гараж у ГБК-3 Вілейкі, цана дагаворная. Т. у Вілейцы 57437.
• **ГАРАЖ У ГК №5 (ЛЯСНЫЯ), НЯДОРАГА.** Т. у Маладзечне 53340.
• 2-пакаёвую кватэру у Валожыне, 5-ы паверх. Т. у Валожыне 55014.
• Дом у в. Бушавіца, 1,5 км ад Маладзечна, пасека, гаспабудовы, тэлефон. Т. у Маладзечне 33751, 44986.



• **3-ПАКАЁВУЮ КВАТЭРУ, 70/40/9, З ДОБРЫМ ЕЎРАРАМОНТАМ, У 6-м МІКРАРАЁНЕ. Т. у Мінску 2276343.**
• Тэрмінова 2-пакаёвую кватэру, 3-і паверх, цэнтр, тэлефон, 46,5/29/6, цана –8500 у. а., магчымы торг. Т. у Маладзечне 76457.
• Гараж у Маладзечне, ГБК №4. Т. у Смаргоні 53213.
• 3-пакаёвую кватэру, агульная плошча 63 $м^2$, жылая 41,1 $м^2$. Т. у Смаргоні 52081 (пасля $18^{00}$).
• 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры. Т. у Маладзечне 62100 (пасля $18^{00}$).
• Аднапакаёвую кватэру ў цэнтры. Т. у Маладзечне 76741.
• Капітальны гараж у кааператыве №1, рамонтная яма, падвал. Т. у Вілейцы 55119 (пасля $18^{00}$).
• Участак з пабудовамі, 15 сотак, в. Зімодры Куранецкага с/с. Т. у Маладзечне 54235.
• Аднапакаёвую кватэру, р-н Зеніта. Т. у Вілейцы 59377.
• Аднапакаёвую кватэру. Т. у Вілейцы 57348.
• Недабудаваную цагляную дачу, каап. "Нарачанка", 600 у. а.; РАФ-2203, 1981 г. в., 10 месцаў, 800 у. а. Т. у Вілейцы 54920.
• Добры дом у в. Більцавічы або мяняю на а/м. Т. у Вілейцы 52812.
• **ТЭРМІНОВА 3-ПАКАЁВУЮ КВАТЭРУ.** Т. у Маладзечне 60758.
• Дом пад дачу, в. Мацукоўшчына, цана дагаворная. Т. у Маладзечне 28333 (пасля $19^{00}$).

## КУПЛЮ

• Хутар у Маладзечанскім раёне. Т. у Маладзечне 33056.

## МЯНЯЮ

• 4-пакаёвую кватэру на 2 + 2 або 2 + дом у Маладзечне. Т. у Маладзечне 51565.
• Дом на кватэру або прадам. Т. у Маладзечне 73656.
• 2-пакаёвую кватэру і дом у п. Сасновы Бор на 4-пакаёвую кватэру. Т. у Маладзечне 33520.
• 4-пакаёвую кватэру, магчымы варыянты. Т. у Маладзечне 66808.
• 2-пакаёвую кватэру ў Кастраме на РБ. Т. у Смаргоні 52965, 52677.

## ЗДАМ

• Гараж у ГК №5. Т. у Маладзечне 52382.
• Гараж у раёне Старога Места. Т. у Маладзечне 74774.

## НАЙМУ

• 2-х або 3-пакаевую кватэру, не хрушчоўку, найлепш у цэнтры. Чысціня і парадак гарантаваныя. Т. у Маладзечне 54646.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Музычнае суправаджэнне вясепляў. Т. у Маладзечне 70532.
• Вас запрашае салон для маладых "Раксалана". Гасцініца "Маладзечна", 1 паверх. Т. у Маладзечне 71676, 51070.
• Музычнае суправаджэнне сямейных урачыстасцяў. Т. у Маладзечне 35203.
• **МІЛЫЯ НЯВЕСТЫ!** Чароўныя ўбранні і аксесуары да іх чакаюць вас. Т. у Маладзечне 64110, 26308.
• Усё для нявесты! Пракат ад 10 млн. Т. у Маладзечне 50362.
• **ВЯСЕЛЬНЫЯ ЎБОРЫ**: модныя, элегантныя, новыя паступленні, вэлюм у падарунак. Т. у Маладзечне 39293.
• **ВЯСЕЛЬНЫЯ, ВЯЧЭРНІЯ ЎБОРЫ. ВЯЛІКІ ВЫБАР.** Памеры 42-60. Ад 5 у. а. Т. у Маладзечне 50825.

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі МАН, 4,5 тон, 20 $м^3$, фургон. Т. у Маладзечне 63031. Ліц. АА №1-6551 МТіК ад 20.10.1998 г. па 19.10.2003 г.

## ІНШАЕ

• Шліфоўка падлогі. Т. у Маладзечне 68693.

# *ГАРАСКОП 8 – 14 ЛІСТАПАДА*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Перыяд будзе поўны навін і дрэнных, і добрых. Галоўнае – зарыентавацца ў патоку інфармацыі і не трапіць на кручок непраўдзівых звестак. У сям'і невялікія праблемы, звязаныя з прастудамі дзяцей або лёгкім недамаганнем мужа (жонкі).

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Захоўвайце гранічную асцярожнасць ва ўсім, што тычыцца руху і перамяшчэнняў. Добры перыяд для работы па доме і зусім нязручны для дзелавых кантактаў.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Даволі складаны і няпэўны перыяд: усё зыбка, хістка і ненадзейна. Засяродзьцеся на нечым адным, бо імкненне ўхапіцца адразу за некалькі спраў ці прапаноў можа скончыцца крахам на ўсіх франтах.

**РАК (22.06–23.07)**
Вытворчыя праблемы могуць быць вырашаныя пры дапамозе вашага красамоўства. Не звяртайце ўвагу на шматлікія правакацыі. У асабістым жыцці – без пераменаў.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Шмат падзей, звязаных з пераездамі, перамяшчэннямі і знаёмствамі. Ні ў якім выпадку не адказвайце ўзаемнасцю на прывабныя прапановы – магчымы падман. Звяртайце ўвагу на дробязі.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Нягледзячы на тое, што ваша здароўе знаходзіцца не ў самым лепшым стане, эмоцыі і настрой – на вышыні.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Да 7 лістапада імкненне прымірыць усіх можа адыграць адваротную ролю, таму не надта намагайцеся ў гэты перыяд у прымірэнні бакоў, якія процібороствуюць, і навядзенні мастоў. 10 лістапада многіх чакае надзвычайная любоўная прыгода.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Дзелавая актыўнасць Скарпіёнаў перавысіць усе магчымыя памеры. Можна ставіць перад сабой самыя неверагодныя задачы: зоркі на вашым баку.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Магчыма, вы нешта згубілі ў сваіх адносінах з партнёрамі (у справах ці ў асабістым жыцці), і цяпер давядзецца прыкласці ўдвая больш намаганняў, каб выправіць становішча. У той жа час, будзе станоўча вырашаная нейкая глабальная праблема.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Працягваецца сітуацыя, калі без валявых рашэнняў з вашага боку не можа быць ніякага руху наперад. Вам не варта замыкацца ў сабе, лепш пагаварыць з партнёрам, тым больш, ён гэтага даўно чакае.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Магчымыя сваркі і рознагалоссі па пытаннях фінансавання і інвестыцый. Вашыя рэфарматарскія замашкі могуць напалохаць дзелавых партнёраў. Ад вашай стрыманасці і дыпламатычнасці залежыць якасны бок здзелкі.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Перыяд спакойны і нават добры. Магчымыя фінансавыя паступленні, добрыя навіны або прыемныя прапановы. Жанчыны–Рыбы могуць у кароткі тэрмін памяняць свае сардэчныя прыхільнасці.

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.

Намеснік галоўнага рэдактара **Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.
E-mail: region_news@irex.minsk.by
222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж 6850 экз.** Падпісная цана на адзін месяц **150 тыс. руб.** (індывідуальная падпіска, **індэкс 63212**), **300 тыс. руб.** (ведамасная падпіска, **індэкс 63369**). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№45(237) 5.11.99.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 4.11.99


РЭКЛАМА

СТАЎКІ ЗА 1 КВ. СМ:

| | |
|---|---|
| Базавая | 200 тыс. руб. |
| Апошняя старонка | 250 тыс. руб. |
| ТБ-праграма | 350 тыс. руб. |
| Першая старонка | 500 тыс. руб. |

СІСТЭМА СКІДАК

ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ

Маладзечна: Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
Вілейка: гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус" **Тэл. 55194, 55284.**
Смаргонь: 1) Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012101960012 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя "РГ"